НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 39 (828) 23 кастрычніка 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Як у найлепшых сталіцах Азіі



Новая рэзідэнцыя Аляксандра Лукашэнкі каштавала бюджэту больш за $130 мільёнаў.
Усе рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы — **старонкі 4-5.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Скандал**

## Былы прэм'ер узяў ільготны крэдыт на $300 тысяч

У рублях, пад 5,5%!
**Старонка 2.**



**Воля**

## Севярынец: З вяселлем пачакайце

Палітвязень адбыў трохгадовае пакаранне. **Старонка 3.**



**Здарэнні**

## Ды-джэй «заказаў» бацьку і бабулю

Страшны судовы працэс у Гомелі.
**Старонка 7.**



**Літаратура**

## Чырвоная сукенка ўзору 1946 года

Нобелеўская лаўрэатка Эліс Манро. Апавяданне.
**Старонкі 12-13.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

Якім ільготнікам мог быць спікер Навіцкі — уласнік **дома ў Драздах** на 550 м²?

# Былы прэм'ер узяў крэдыт на $300 тысяч. У рублях. Пад 5,5%!

У 1994 Генадзь Навіцкі, на той час кіраўнік Магілёўскага аблсельбуда, зрабіў выбар, які вызначыў ягоную будучыню. Навіцкі актыўна збіраў подпісы за Аляксандра Лукашэнку і пасля ягонай перамогі стаў міністрам архітэктуры і будаўніцтва.

2001-2003 гады — зорны час для Генадзя Навіцкага. Ён другая асоба краіны, прэм'ер-міністр. Але кіраўнік краіны быў ім не задаволены і даволі хутка перасадзіў ва ўтульнае месца старшыні Савета рэспублікі.

У пачатку 2000-х Навіцкі трапіў у спіс некалькіх дзясяткаў высокіх чыноўнікаў, якія атрымалі прапанову пабудаваць катэдж у элітных Драздах, пад бокам у Лукашэнкі. Вядома ж, спікер парламента не адмовіўся.

Дом былога будаўніка быў дакончаны ў жніўні 2006 і аказаўся ледзь не самым вялікім сярод суседзяў — амаль 550 м². Цяпер цана такой нерухомасці дасягае $2 мільёнаў!

Гэтым і скарыстаўся Навіцкі, калі 26 красавіка 2007, у дзень Чарнобыльскага шляху, аформіў крэдыт у дзяржаўным «Белінвестбанку». Ён, на той момант старшыня Савета Рэспублікі, пад заставу дома адкрыў рублёвую крэдытную лінію на 630 мільёнаў рублёў — $300 тысяч па тагачасным курсе.

Але самае цікавае — умовы выдзялення крэдыту. Згодна з інфармацыяй Нацыянальнага кадастравага агенцтва, прадастаўленай «Нашай Ніве», Навіцкі ўзяў грошы пад палову стаўкі рэфінансавання — на той час 5,5%. Паводле дамовы, аддаць іх трэба да 2018. Такія вялікія крэдыты не даюць асобам перадпенсійнага ўзросту, але для Навіцкага зрабілі выключэнне.

Ці ўзяў Навіцкі ўсю крэдытную лінію, невядома. Але можна зрабіць прыблізныя разлікі: калі б ён вяртаў усю суму роўнымі плацяжамі, то штомесяц давялося б плаціць па 6,1 мільёна рублёў.

2007 год — час перад першай дэвальвацыяй. Пры тагачасным курсе даляра Навіцкаму давялося б вяртаць у рублях па $2850 штомесяц, па цяперашнім — усяго $668. Прычым інфляцыя працягвае змяншаць гэтую суму.

Больш за $2 тысячы чыстага «навару» за месяц — які добры дадатак да персанальнай пенсіі!


Маёнтак Навіцкага ў Драздах, застаўлены банку.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН


Генадзь Навіцкі цяпер ганаровы пенсіянер.

PHOTO.BYMEDIA.NET


...: 30.08.2006 00:00:00
...й регистрации. Акт ввода объекта в эксплуатацию от 18.08.2006
...ввод в эксплуатацию и распорядительного органа (Администрация
...г.Минска) от 22.08.2006 №701
...ограничения (обременения) прав: Обременение права собственности правом
...нные сведения о правообладателе: Открытое акционерное общество
...анк развития и реконструкции "Белинвестбанк", УНП 807000028, юридический
...пр-т Машерова, д. 29
...: с 26.04.2007 по 30.11.2018
...ательств или данные о порядке и условиях ее определения: 630653640 BYR
...мая кредитная линия с максимальным размером (лимитом)общей суммы
...х денежных средств в сумме 630653640 бел. рублей с предельным размером
...адолженности в сумме 601081740 бел. рублей сроком по 30.11.2018 с упла...
...ование кредитом в размере 0,5 ставки рефинансирования.)
...й регистрации: 26.04.2007 11:58:39
...нной регистрации: Договор об ипотеке (РУП "Минское город...
...енной регистрации и земельному кадастру") от 26.04.2...

Крэдытная лінія на асобу Генадзя Навіцкага складала 630 мільёнаў рублёў, сведчыць выпіска кадастравага агенцтва.

Вядома ж, падобным чынам штомесяц змяншаюцца крэдытныя выплаты ўсіх «ільготнікаў», якія атрымалі дзяржаўную дапамогу, — напрыклад, шматдзетных і маладых сем'яў. Але якім ільготнікам мог быць спікер Навіцкі, маючы сядзібу на 550 м²?

У красавіку 2007 мінімальная стаўка па рублёвых крэдытах «Белінвестбанка» складала 11% і маглі выдавацца яны на канкрэтныя мэты: аплату навучання, рытуальныя паслугі і лячэнне. Тыя, хто стаяў у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоваў, маглі ўзяць грошы на куплю нерухомасці пад 11%, а астатнія — пад 16%. Але каб пад 5,5% — ні пры якіх умовах.

Як кажуць, каму вайна, а каму маці радна. Для большасці людзей дэвальвацыя была драмай, яна з'ела іх рублёвыя ашчаджэнні. А для такіх «ільготнікаў» гэта была радасць. Бо яны на ёй ой як наварылі.

«Гэта не нармальна. Правілы павінны быць аднолькавымі для ўсіх пазычальнікаў, незалежна ад таго, якую пасаду займае той ці іншы грамадзянін. Спецыяльныя льготныя ўмовы для прэм'ер-міністра — гэта карупцыя», — каментуе сітуацыю былы старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч. Зрэшты, гэта ўсё толькі здагадкі.

**Ягор Марціновіч**

*«Наша Ніва» адправіла пісьмовы запыт у «Белінвестбанк» з просьбай пракаментаваць сітуацыю. Хатні тэлефон Генадзя Навіцкага не адказвае ўжо другі тыдзень.*

## Сцісла

**Пенсіі падрастуць на 5,1%**

Папярэдні пераразлік пенсій адбыўся сёлета ў чэрвені. Тады іх памер вырас на 10%. На гэты момант сярэдняя пенсія ў Беларусі складае $239.

**8 лістапада застанецца працоўным днём**

Пераносу працоўных дзён у сувязі са святкаваннем Дня кастрычніцкай рэвалюцыі не плануецца.

**Разбіўся аўтобус, у якім ехалі на канцэрт «Ляпіса»**

У Пецярбургу ў аварыю трапіў аўтобус, які прывёз 29 чалавек на канцэрт «Ляпісаў», забароненых у Беларусі. Ён ударыўся ў грузавік, які рэзка затармазіў перад ім. 47-гадовы кіроўца аўтобуса загінуў, прычым ён сядзеў не за стырном, а збоку.

**Санкцыі супраць Мінска працягнуць аўтаматычна**

Візавыя і эканамічныя санкцыі супраць беларускіх уладаў будуць працягнутыя з лістапада аўтаматычна яшчэ на адзін год. Механізм санкцый прадугледжваў іх працяг, калі не зменіцца сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі.

**Загінуў сенатар, рэктар Віцебскага ўніверсітэта**

53-гадовы Аляксандр Салодкаў трапіў у аварыю на службовай «Газелі». Летась яго прызналі чалавекам года на Віцебшчыне.

ЯМ

## Апытанне на nn.by

**Ці можа беларуская нацыя стаць гістарычна ўстойлівай без беларускай мовы?**

| | | |
|---|---|---|
| так | 3 | 5% |
| пры ўдалым збегу геапалітычных і гістарычных абставінаў — так | 706 | 71% |
| не | 9 | 6% |
| я без мовы не хачу! | 76 | 18% |

Усяго прагаласавала 994.

## Рэкамендуем

**«Ліст з пекла»:**

Пра парадкі ў турмах піша палітвязень Мікола Аўтуховіч

**Чытайце на nn.by**

## Самае чытанае на nn.by з 16 да 22 кастрычніка

1 Масавыя беспарадкі ў Маскве: узялі штурмам некалькі будынкаў.
2 Васіль Уткін: «Беларусы — канчаныя правінцыялы»
3 Сяргей Міхалок быў заўважаны ў Мінску — фотафакт
4 Севярынец на волі.
5 «Смаркаты двоечнік ведае, а Лукашэнка — не»
6 Чым яны займаюцца на плошчы Дзяржаўнага сцяга? — загадка
7 Вінцук Вячорка: Якія беларускія імёны правільныя
8 Лукашэнка: Будучыня не за саюзамі, а за асобнымі нацыямі
9 Рыжскі тэатр пасмяяўся з Лукашэнкі ў Мінску
10 Мадэлі з прышчамі і чырвоныя дываны: Тыдзень моды ў Мінску

# Павел Севярынец: З вяселлем пачакайце

Палітвязень **выйшаў на волю**.


АКСАНА РУДОВІЧ

Севярынец дорыць кветкі сваёй дзяўчыне Вользе.

У пятніцу вечарам тэлефаную Паўлу Севярынцу ў Куплін. «А якой заўтра вызваляюць?» «Сказалі, што а 10-й падвязуць да кавальскай майстэрні, на ўездзе ў вёску», — расказвае Павел. У гэты час ён рыхтуецца правесці апошняе для насельнікаў камендатуры «Шоу Беларушчыны».

Прыкладна а 6-й раніцы выязджаем з Мінска ўбок Пружанаў. Пад Дзяржынскам фатограф Сяргей Гудзілін чытае фэйсбук. «О, пішуць, што Севярынца пасадзілі на цягнік».

Спыняем машыну. Зноў тэлефаную Паўлу. «Зміцер, кажы хутка, садзіцца батарэя ў мабільніку. Так, ужо на Мінск еду». Сувязь на гэтым абрываецца. Болей дазваніцца да Севярынца немагчыма. Паварочваем назад на сталіцу.

Севярынца пасадзілі на цягнік а трэцяй ночы на станцыі Аранчыцы. Цягнік там стаіць усяго пару хвілінаў, а рэчаў у палітвязня з сабой шмат. Потым Павел жартаваў, што міліцыянты ледзь не штурмавалі вагон, каб паспець загрузіць усё.

Сустракаць прыйшлі ў асноўным сябры-аднапартыйцы: Віталь Рымашэўскі, Аляксей Шэін, Дзяніс Садоўскі, Ганна Шапуцька. Былі прадпрымальнік Алесь Макаеў, праваабаронца Людміла Гразнова, маладафронтаўцы Зміцер Дашкевіч, Наста Палажанка, Мікола Дземідзенка. А вось прадстаўнікоў іншых палітычных партый не было зусім. Раніца, субота. Мо праспалі?

Збіраюцца не толькі Паўлавы аднадумцы. Збіраюцца на пероне і людзі з рацыямі ды дубінкамі. Асабліва не падабаюцца такім журналістам з фотаапаратамі. Спачатку перада мной правялі Алеся Пілецкага з «Еўрарадыё» і Аляксандра Васюковіча, а потым ужо падышлі і да Сяргея Гудзіліна. Павялі ў апарняк.

«У памяшканне, дзе ў нас нібыта правяралі дакументы, зайшла прыбіральшчыца. Старлей ёй з парогу аджог: «Вы за мусарам ці прыбіраць?» — расказваў Гудзілін. Праз гадзінку журналістаў усіх адпусцілі, але работу сарвалі.

Віталь Рымашэўскі стаў гучна звяртацца да людзей на пероне: «Паглядзіце, што робіцца. Не даюць сустрэць палітвязня Паўла Севярынца». Следам за журналістамі павялі і Рымашэўскага.

Цягнік «Брэст — Масква» прыбывае. Вагон №10. Павел паказваецца ў дзвярах апошнім. Вітальна ўздымае рукі. А потым просіць хлопцаў дапамагчы дастаць рэчы. Дземідзенка, Яроменак, Дашкевіч, Шэін кідаюцца ў вагон, доўга разгружаючы Паўлавы пажыткі.

З Прывакзальнай плошчы 19 снежня 2010 года Севярынец ішоў на паслявыбарчыя пратэсты. Сюды ж яго прывезлі амаль праз тры гады пасля тых падзеяў.

Павел усё той жа, толькі вусоў ужо няма. Кажуць, згаліць папрасіла дзяўчына. Вольга, Паўлава нявеста, тут жа. На пытанне, калі вяселле, Севярынец адказвае з усмешкай: «Пачакайце крыху. Спачатку трэба да яе бацькоў з'ездзіць». — «Хоць сёлета?» — «Пачакайце крыху».

Павел кажа, што цяпер яго задача — рыхтаваць «маральную рэвалюцыю». Будзе надалей працаваць на ўмацаванне Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. А вось вылучацца на прэзідэнцкія выбары-2015 намеру не мае. Расказаў, што намеснік начальніка спецкамендатуры на развітанне паведаміў яму, што вылучацца кандыдатам цягам бліжэйшых двух гадоў ён ужо не зможа. «Такіх планаў у мяне і не было, але людзі Аляксандра Рыгоравіча падстрахаваліся», — сказаў Севярынец.

З перона першай справай Севярынец пайшоў да апарняка, вызваляць затрыманых. У міліцыі сустракаць Паўла адправілі не абыкага, а начальніка мінскай міліцыі Барсукова.

Павел не пастаўлены пад міліцэйскі нагляд. Жыць яму не абавязкова па прапісцы ў Віцебску, можна і ў Мінску.

**Зміцер Панкавец**

*Апошні ліст з цыкла «Беларуская глыбіня» чытайце на старонцы 10.*

**Апытанне на nn.by**

**Ці трэба Паўлу Севярынцу ісці на прэзідэнцкія выбары-2015?**

| | | |
|---|---|---|
| Так, ён будзе годным кандыдатам | 256 | 31% |
| Не, лепш хай працуе ў штабе кагосьці больш вартага | 85 | 10% |
| Хай займаецца грамадскай дзейнасцю, нашто яму тая палітыка? | 118 | 14% |
| Якія выбары-2015? Толькі байкот | 373 | 45% |

Усяго прагаласавала 832.

**Напішы палітвязню**

**Алесь Бяляцкі**
213807, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1, Папраўчая калонія №2, атрад №14.

**Мікола Статкевіч**
212011 г. Магілёў, вул.Крупскай, 99а, турма № 4

**Мікалай Аўтуховіч**
230023, г.Гродна, вул.Кірава, 1, турма №1

**Эдуард Лобаў**
225295 Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а / с 20
Папраўчая калонія № 22

**Мікалай Дзядок**
212011 г. Магілёў, вул.Крупскай, 99а
турма № 4

**Ігар Аліневіч**
211440 Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8
Папраўчая калонія № 10

**Яўген Васьковіч**
212011 г. Магілёў, вул.Крупскай, 99а
турма № 4

**Арцём Пракапенка**
212013, г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, 183, ПК № 15

**Андрэй Гайдукоў**
213030, г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, 3 км, ПК № 19

## Літоўскі міністр прывязе Лукашэнку безыменнае запрашэнне на саміт Усходняга партнёрства

Неперсанальнае запрашэнне — гэта намёк, **каб ён не прыязджаў**.

Міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкявічус мае ўручыць Аляксандру Лукашэнку запрашэнне ў кастрычніку. Для гэтага ён наведае Мінск. Дакладная дата візіту яшчэ не вызначаная, паведаміў прэм'ер Літвы Альгірдас Буткявічус.

«ЕС папрасіў міністра паехаць у Беларусь, сустрэцца з Лукашэнкам і ўручыць запрашэнне ў сувязі з сустрэчай Усходняга партнёрства, якая будзе праходзіць 28-29 лістапада ў Вільні. Але ў запрашэнні не ўпісана прозвішча», — сказаў журналістам кіраўнік урада Літвы.

Гэта празрысты намёк, каб Аляксандр Лукашэнка ўстрымаўся ад паездкі. Аналагічна, як і ў 2009 годзе, калі на Пражскі саміт Усходняга партнёрства ад Беларусі ездзіў не ён, а віцэ-прэм'ер Сямашка.

Буткявічус нагадаў, што Лукашэнка застаецца ў візавым «чорным спісе» Еўрасаюза. Адзначым, што прычынай гэтаму былі шматлікія парушэнні правоў чалавека ў Беларусі.

Мяркуецца, што замест кіраўніка дзяржавы ў Вільню выправіцца міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей.

Місія паездкі ў Мінск выпала Лінкявічусу, бо Літва старшынюе ў ЕС з 1 ліпеня. У 2009 годзе з аналагічнай місіяй у Мінск прыязджаў тагачасны міністр замежных спраў Чэхіі Карэл Шварцэнберг.

**Мікола Бугай**

**Цытата**



**Лукашэнка: Будучыня не за саюзамі, а за асобнымі нацыямі**

«Своя незалежная дзяржава дае нам свабоду — тое, да чаго па прыродзе сваёй імкнецца кожны чалавек і кожная нацыя, свабоду жыць на сваёй, Богам дадзенай зямлі, свабоду самім выбіраць свой шлях, свабоду шанаваць свае традыцыі. З пункту гледжання будучыні асобных нацый і суверэнных дзяржаў, я, напэўна, сябе магу назваць гістарычным аптымістам, — адзначыў Аляксандр Лукашэнка. — Нягледзячы ні на якую глабалізацыю, панцы Радзімы, Айчыны, незалежнасці сваёй зямлі яшчэ вельмі рана спісваць у гістарычны архіў, з майго пункту гледжання», — сказаў кіраўнік Беларусі падчас наведвання Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Аркадзя Куляшова.

**Сціслa**

**Telegraph: Беларусь атрымлівае ад Брытаніі дзясяткі мільёнаў фунтаў**

У прыватнасці, толькі летась дапамога Мінску ў рамках праграмы EuropeAid узрасла да 32 млн фунтаў стэрлінгаў. Улады сцвярджаюць, што частка гэтых сродкаў ідзе на ўмацаванне заходніх межаў, што ў тэорыі павінна дапамагчы ў барацьбе з наркатрафікам, піша брытанскае выданне.

**Баршчэўскі заклікае ўсе адгалінаванні БНФ аб'яднацца**

Сам перакладчык, педагог, былы кіраўнік БНФ гатовы выступіць старшынёй на з'ездзе яднання БНФ як шырокага руху і пры гэтым не займаць пасля ніякіх пасад. Сёння ёсць Партыя БНФ, якую ўзначальвае Аляксей Янукевіч, КХП-БНФ Зянона Пазняка і «Беларускі рух», куды сышлі прыхільнікі Вінцука Вячоркі і Лявона Баршчэўскага.

**Мясцовыя выбары не пазней за 25 сакавіка**

Выбарчая кампанія мае пачацца ў снежні. Пра гэта паведаміла старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына. Апазіцыя ўспрымае мясцовыя выбары як легальную магчымасць працаваць з выбарцамі.

**Сан-Марына пакуль не ўступіць у ЕС**

На выхадных у «карлікавай» рэспубліцы, якая знаходзіцца ўнутры Італіі, прайшоў рэферэндум аб далучэнні да Еўрасаюза. Большасць выказалася за, аднак колькасць удзельнікаў не дасягнула кворуму ў 32%, таму прапанова не прайшла. Насельніцтва Сан-Марына — 32 тысячы чалавек.

ЗП

# Усе рэзідэнцыі прэзідэнта:

Кіраўнік дзяржавы мае па дзве жылыя і працоўныя і з дзясятак гасцявых сядзібаў.

Саміт кіраўнікоў краін СНД, які адбудзецца 24—25 кастрычніка, мае прымаць Палац Незалежнасці, дабудаваны ў цэнтры Мінска.

Аляксандр Лукашэнка неаднаразова сцвярджаў, што гэта ніякая не рэзідэнцыя, аднак пасля прызнаўся, што будзе мець у ёй свой кабінет. На фасад будынка нанесены надпіс, які не пакідае месца спекуляцыям: «Рэзідэнцыя прэзідэнта».

Палац Незалежнасці заняў пачэснае месца ў другім дзясятку рэзідэнцый, прынамсі, з тых, пра якія вядома грамадскасці.

«Наша Ніва» нагадвае пра астатнія з іх. Пад рэзідэнцыяй мы разумеем месцы пражывання і працы кіраўніка дзяржавы, а таксама месцы, у якіх прымаюцца афіцыйныя замежныя дэлегацыі. Гэтыя аб'екты абслугоўваюцца кампаніяй «Дыпсэрвіс», якая ўваходзіць у структуру Адміністрацыі прэзідэнта.


Будаўніцтва Палаца Незалежнасці каштавала бюджэту больш за $130 мільёнаў. Лукашэнка ж сцвярджае: не патрачана ні рубля.

Сяргей Гудзілін

### Размах «Драздоў»

Самай галоўнай рэзідэнцыяй, сталым месцам жыхарства Аляксандра Лукашэнкі, з'яўляюцца **«Дразды»** на ўскрайку Мінска, названыя ў гонар аднайменнага вадасховішча.

«Дразды» паспелі стаць імем назоўным. Гэта сімвал лукашэнкаўскай улады — агромністая рэзідэнцыя пасярод лесу, наглуха закрытая ад выпадковых наведнікаў, і комплекс з некалькіх дзясяткаў катэджаў непадалёку. У ім пасяліліся міністры і ўплывовыя бізнэсмэны.

Што ўяўляюць сабой лукашэнкаўскія «Дразды»? Гэта комплекс больш чым з паўсотні разнастайных збудаванняў.

Самае галоўнае — дом агульнай плошчай больш чым 2000 м². Няцяжка здагадацца, хто жыве ў гэтай грамадзіне.

Для афіцыйных прыёмаў абсталяваныя два будынкі па 850 м². Аднак далёка не кожнага замежнага госця Лукашэнка запрашае да сябе ў «Дразды» — ёсць і не такія прэстыжныя рэзідэнцыі.

Калі нехта ўсё ж атрымае такі гонар, то пераначыць ягоная дэлегацыя зможа ў спецыяльным доме для прыезджых, утрая меншым за галоўны будынак.

Найбольшую частку тэрыторыі рэзідэнцыі займаюць жылыя катэджы. Калі ўгледзецца ў карту, то можна налічыць больш за 30 такіх дамоў. Яны засталіся ад паслоў, выселеных у 1998. Гэта не тыя катэджы, якія належаць наменклатурнай эліце. Чыноўнікі жывуць за плотам, за некалькі кіламетраў ад рэзідэнцыі.

Асаблівая ўвага ў Драздах нададзеная спорту. Тут пабудаваныя спарткомплекс (1000 м²) і басейн (750 м²), пасля наведання іх можна адпачыць у адной з дзвюх лазняў.

Таксама ў рэзідэнцыі ёсць асобныя рэстаран, бар і буфет. Адкрытая нават свая крама! А для аховы здароўя першай асобы краіны пабудаваная станцыя абезжалезвання вады.

Цікава, што на тэрыторыі «Драздоў» усталяваныя дзве антэны мабільных апаратараў — «Велкома» і МТС. А вось «Лайф» не ў пашане.


У Віскулях рабілася гісторыя.


Рэзідэнцыя ў Плаўне знаходзіцца на беразе возера.


У Ляскавічах здымаўся фільм «На спіне чорнага ката» з унучкай Лукашэнкі ў адной з роляў.

TUT.BY

### Прышкольная рэзідэнцыя

Другая жылая рэзідэнцыя Лукашэнкі — **«Азёрны»**, які знаходзіцца ў Астрашыцкім Гарадку. У мясцовай школе вучыцца малодшы сын кіраўніка краіны Мікалай.

У савецкія часы гэта было лецішча маршала Цімашэнкі. Перад «засяленнем» сюды Аляксандра Лукашэнкі была праведзеная рэканструкцыя існуючых збудаванняў, а таксама дабудаваныя новыя аб'екты.

«Азёрны» раскінуўся амаль на 90 гектараў, абнесеных высокім плотам. Сама рэзідэнцыя ўяўляе сабой трохпавярховы ўмацаваны цагляны будынак, плошча кожнага паверха складае каля 500 м².

На тэрыторыі «Азёрнага» звяртаюць на сябе ўвагу маленькі аднапавярховы чайны домік, пабудаваны па распараджэнні Лукашэнкі некалькі гадоў таму, а таксама трохсекцыйны элінг. Элінг — гэта спецыяльнае збудаванне для захоўвання воднага транспарту.

Куды можна даплыць з Астрашыцкага Гарадка? Калі меркаваць па карце, то нікуды. Толькі накруціць некалькі колаў па мясцовым возеры.

#### Турыстычныя «рэзідэнцыі»

Асобнай катэгорыяй можна лічыць сціплыя базы адпачынку і былыя ўрадавыя лецішчы, перададзеныя для абслугоўвання прэзідэнцкаму «Дыпсэрвісу».

**«Сцяпянку»** можна знайсці ў аднайменным мінскім раёне, непадалёку ад Нацыянальнай бібліятэкі. Больш за дзясятак дачных домікаў нібыта могуць прымаць турыстаў, аднак частка з іх здаецца пад офісы.

Гасцінічны комплекс **«Краснасельскі»** на 40 месцаў знаходзіцца ў вёсцы Рогава Мінскага раёна. Гэта накірунак Радашковічаў. У складзе «Краснасельскага» — трохпавярховы гатэль, а таксама тры жылыя дамкі.

У лесе на беразе возера знаходзіцца і **«Крылова»**. Гэта каля 30 км ад Мінска, непадалёку ад Заслаўя. Гасцінічныя нумары, лазня, тэнісны корт — для адпачынку падыходзіць, але для прыёма замежных дэлегацый выглядае непрэзентабельна.

Нядаўна на баланс «Дыпсэрвіса» перавялі і дом у шклоўскай **Александрыі**, дзе нарадзіўся Аляксандр Лукашэнка. Гэта звычайная драўляная хата, абшытая блокхаўсам. За яе дзяржава заплаціла мясцоваму калгасу $50 тысяч. Экзатычны гатэль? Музей? Прызначэнне хаты яшчэ не вызначанае.

# ад «Драздоў» да роднай хаты

## Савецкая спадчына

Такі самы элінг пабудаваны і ў гасцявой рэзідэнцыі **«Заслаўе»** на беразе Мінскага мора. Тутсама можна знайсці і аднапавярховы спарткомплекс на 700 м².

Для наведнікаў «Заслаўя» пабудаваныя некалькі карпусоў. Самы вялікі з іх — трохпавярховік, удвая большы за дом Аляксандра Лукашэнкі ў «Драздах»! Не нашмат меншыя і два іншыя корпусы.

Зрэшты, некаторыя замежныя госці спыняюцца на двары — падчас візіту ў Беларусь былы лівійскі дыктатар Муамар Кадафі расклаў свой шацёр наўпрост пасярод заслаўскага лужка.

Колішняя рэзідэнцыя Аляксандра Лукашэнкі знаходзіцца за некалькі крокаў ад плошчы Перамогі, **на Вайсковым завулку**. Тут кіраўнік дзяржавы жыў да засялення ў «Драздзы».

Некалькі гадоў таму савецкі катэдж быў перарэгістраваны пад... гатэль. Вось толькі пераночыць там простаму турысту не атрымаецца.

База адпачынку **«Крупеніна»** за 30 км ад Віцебска — два корпусы і некалькі VIP-катэджаў. Час ад часу яны прымаюць афіцыйныя дэлегацыі. Напрыклад, у пачатку 2000-х сюды прыязджалі прэзідэнты Расіі і Украіны Уладзімір Пуцін і Леанід Кучма. А некалькі гадоў таму спыняўся патрыярх Кірыл.

У іншы час у «Крупеніна» можа спыніцца любы ахвотны. Самы просты нумар каштуе каля $40, а дарагі катэдж — $530.

Хутар **Віскулі** на Пружаншчыне ўвайшоў у гісторыю як месца распаду СССР. Паляўнічая сядзіба не карыстаецца любоўю Аляксандра Лукашэнкі. Гэтая рэзідэнцыя адкрытая для наведнікаў. Экскурсанты, якія прыязджаюць у Белавежскую пушчу, не абмінаюць і Віскулі.


Сцяпянка — малавядомы комплекс, які цяпер заняты офісамі.


Загадкавы «Усход» за калючым дротам.

**Спадчына ЦК КПБ**

Старая працоўная рэзідэнцыя Аляксандра Лукашэнкі — усім вядомы «Чырвоны дом» у цэнтры Мінска. За савецкімі часамі на **Маркса, 38** засядала камуністычная партыя, а цяпер — Адміністрацыя прэзідэнта.

Шасціпавярховую рэзідэнцыю пачалі будаваць яшчэ да вайны, а скончылі толькі ў 1947.

## Свой унёсак

Рэзідэнцыя ў Бярэзінскім гідралагічны запаведніку была пабудаваная ўжо пры Лукашэнку. **«Плаўна»** з'явілася ў 1998 непадалёку ад вёскі Волава Гара. Летась у ёй прайшла рэканструкцыя. Гэта далёкі ад шыку, акуратны трохпавярховы будынак, разлічаны на 12 чалавек. Ёсць саўна, басейн, більярд, пляжны комплекс, рэстаран і нават верталётная пляцоўка. З кожнага наведніка возьмуць каля $70.

Зняць катэдж на васьмярых па суседстве будзе каштаваць каля $245. Менавіта тут нібыта жыў некаторы час зрынуты кіргізскі прэзідэнт Курманбек Бакіеў.

Таксама на Віцебшчыне знаходзіцца **браслаўская** рэзідэнцыя Лукашэнкі, дабудаваная два гады таму. У яе проста так не патрапіш. Паводле апісанняў яе наведнікаў, катэ-джы знаходзяцца на тэрыторыі заказніка «Міжазёрны» , паміж азёрамі Паўночны Волас і Снуды.

**Ляскавічы** — узорны аграгарадок у Прыпяцкім нацыянальным парку на Петрыкаўшчыне. Тут жыве менш за 1000 чалавек, затое ёсць свой гатэль.

А на беразе Прыпяці пабудавалі палескую рэзідэнцыю Аляксандра Лукашэнкі. Некалькі маленькіх катэджаў і адзін будынак большай плошчы добра бачныя з прагулачных цеплаходаў.

## Нічыйны «Усход»

У кожнай з пералічаных рэзідэнцый кіраўнік дзяржавы з'яўляецца толькі часовым гаспадаром, бо ўласнікам з'яўляецца Рэспубліка Беларусь. Адзінае выключэнне — загадкавы комплекс **«Усход»** у адной з затокаў Мінскага мора. Тут бачныя ўсе прыкметы рэзідэнцыі — узброеная ахова, трохметровы плот, камеры відэаназірання на кожным кроку. Тут забаронена не толькі ездзіць, але нават і хадзіць!

Знаходзіцца «Усход» побач з рэзідэнцыяй «Заслаўе», абыкаму там будавацца не дазволілі б. Пра сваё дачыненне да яго не заяўляў ніводзін беларускі ці замежны мільянер.

Мяркуючы па спадарожнікавай карце, комплекс складаецца з трох вялікіх будынкаў, кожны для пражывання асобнай сям'і, а таксама дзвюх меншых хатак, басейна і гаспадарчых збудаванняў.

Абслугоўваць такую плошчу за свой кошт задорага, таму загадкавы ўласнік пераклаў гэты абавязак на прыватную кампанію.

**Ягор Марціновіч**


Дом у Вайсковым завулку перапрафілююць пад гатэль?





Катэджы ў Драздах засталіся ад замежных дыпламатаў.

**Шык і сціпласць**

Прэзідэнт Украіны **Віктар Януковіч** мае чатыры афіцыйныя рэзідэнцыі, з дзясятак гасцявых рэзідэнцый, а таксама некалькі лецішчаў для адпачынку ў Крыму. Шыкоўную рэзідэнцыю «Міжгор'е» непадалёку ад Кіева Януковіч здолеў... прыватызаваць.

У прэзідэнта Расіі **Уладзіміра Пуціна**, апроч Крамля, фармальна толькі тры рэзідэнцыі. Шматлікія гасцявыя дамы ў рэгіёнах належаць мясцовым уладам.

**Кіраўнік Польшчы** распараджаецца чатырма рэзідэнцыямі. Гэта гістарычныя будынкі.

У **прэзідэнта Латвіі** таксама дзве рэзідэнцыі — у Рызе і Юрмале. Аднак той аддае перавагу ўласнай кватэры ў сталіцы і свайму вясковаму дому.

Дзвюх рэзідэнцый — афіцыйнай і загараднай — хапае і прэзідэнту ЗША **Бараку Абаму**.

# Кілаграм бульбы — аж да 7 тысяч рублёў

**Цэны** на Камароўцы **падраслі**.

Зялёны ўзбекскі вінаград паўсюль каштуе аднолькавыя 17 тысяч рублёў. Чырвоны малдаўскі вінаград троху таннейшы, у сярэднім па 14 тысяч рублёў, выключэнне — «кардынал». Цана на яго перавышае 30 тысяч.

Самы хадавы цяпер тавар — хурма. У сярэднім за «каралька» просяць 20 тысяч. Можна знайсці і за 17 тысяч, аднак выглядае такая хурма, нібы яе доўга трымалі пад снегам. І толькі іспанская хурма «какі» мае кошт 30 тысяч, аднак і выглядае яна на гэтыя грошы!

Сезон восеньскіх сартоў яблыкаў патроху сканчваецца, за айчынную «зімовую антонаўку» просяць 8500 рублёў, за «ананасныя» — 11 тысяч, а за «славу пераможцам» — 10 тысяч. Тое самае і з ігрушамі: беларуская «бэра» — 8 тысяч, «мядовая» — 20, а «канферэнцыя» — 15.

Дарэчы, любая садавіна з назвай «мядовая» мае вышэйшы кошт, вось і дыня «мядовая» каштуе 20 тысяч, у той час як туркменская «гулябі» — 15 (пры гэтым апошняя выглядае лепей). І толькі кавуны, якіх, дарэчы, не надта шмат засталося, каштуюць амаль паўсюль 5000 за кілаграм.

Што тычыцца гародніны, то тут разлёт цэн больш заўважны. За памідоры можна аддаць ад 14 да 20 тысяч рублёў, за перцы — ад грэчаскіх за 16 тысяч да ізраільскіх за 26 тысяч і балгарскіх за 35 тысяч.

А вось бульба сёлета нятанная. Найменш каштуюць невялічкія «адрэта» і «ласунак» — па 4 тысячы. Затое за адборнага «ўладара» просяць аж 7 тысяч! Для параўнання, на сезонных кірмашах бульбу прадаюць па 3000 рублёў, а часам і за 2500.

Самыя стабільныя на Камароўцы цэны на журавіны — усе прадаўцы ацэньваюць іх у 20 тысяч за літр, 10 за палову.

ЮУ



Дзмітрый Алексін вёў прыгожае жыццё ў сталіцы.

## Затрыманы партнёр Чыжа Аляксей Алексін

Сям'я Алексіных **займалася нафтай**.

Следчы камітэт Беларусі паведаміў пра затрыманне заснавальніка шэрагу прадпрыемстваў, якія займаюцца рэалізацыяй нафтапрадуктаў. Гэта Аляксей Алексін. Спачатку, дарэчы, з'явілася непраўдзівая інфармацыя пра затрыманне яго нага сына Дзмітрыя.

Сям'я Алексіных блізкая да асобы Юрыя Чыжа. Аляксей і яго ная жонка Ірына кіравалі «чыжоўскім» рэстаранам «Сябры» пад Мінскам, мелі дачыненне і да нафтаперапрацоўкі.

Пасля ўвядзення санкцый Еўрасаюза супраць мільянера 80% акцый ягонай латвійскай кампаніі «Неанафта» былі перапісаныя на Алексіных, прычым частка з іх — на сына Дзмітрыя, прадстаўніка беларускай «залатой моладзі».

Затрыманне Аляксея Алексіна адбылося ў рамках расследавання крымінальнай справы ў дачыненні да намесніка старшыні канцэрна «Белнафтахім» Уладзіміра Волкава. Волкаву інкрымінуецца атрыманне хабару памерам $19 тысяч за ўзгадненне аб'ёмаў перапрацоўкі спадарожных прадуктаў нафты на прадпрыемствах «Белнафтахіма».

ЯМ

## Улады прынялі радыкальны антыкрызісны план для МВФ

Урад і Нацбанк рыхтуюцца да перамоваў **аб новым крэдыце**.

Нацбанк і Савет міністраў зацвердзілі план структурнага рэфармавання эканомікі Беларусі. Гэты дакумент фактычна азначае разварот беларускай эканомікі ад інфляцыйнай мадэлі развіцця. Чыноўнікі гатовыя змірыцца з замаруджваннем росту ВУП і перайсці да жорсткай эканоміі. За студзень-верасень 2013 ВУП вырас усяго на 1,1% — і ні да якіх «рэпрэсій» у бок чыноўнікаў гэта не прывяло.

План утрымлівае некалькі асноўных палажэнняў. Сярод іх рэзкае скарачэнне крэдытавання беларускай эканомікі і актыўны пошук грошай. Мяркуецца прадаваць аблігацыі, выводзіць на біржу прыбытковыя акцыянерныя таварыствы, а таксама забіраць яшчэ больш грошай у «Беларуськалія», «Нафтана» і іншых паспяховых кампаній. Падзяліцца выручкай загадаюць нават дзяржаўным банкам і Нацбанку.

ЯМ

### Сцісла

**Польскі бізнэсмен купіў яшчэ адзін беларускі банк**

«Беларускі банк малога бізнэсу» быў прададзены за 4,9 мільёна еўра фінансаваму холдынгу Getin Holding, які кантралюе польскі мільянер Лешак Чарнецкі. Раней ён ужо набыў у Беларусі «Ідэябанк» (былы «Сомбелбанк»).

**«Беларусбанк» адкрыў рублёвы ўклад для тых, хто чакае дэвальвацыю**

У дэпазіце «Гарант» выплаты па працэнтах прывязаныя да курсу даляра. Базавая стаўка складае 10-15%, а дадатковы даход залежыць ад ступені абвала рубля. «Гарант» пасуе тым, хто верыць у дэвальвацыю рубля больш чым на 30%.

**Вакол «Марка» створаць абутковы холдынг**

У яго склад трапяць «Сан Марка», «Чырвоны Кастрычнік», «Марка-сэрвіс», «Вітміл», а таксама арганізацыя , якая ствараецца на базе Віцебскага футравага камбіната . Гэты камбінат прададзены фабрыцы «Марка» сенатара Мікалая Мартынава за адну базавую велічыню.

**Савецкія крамы прадаюцца сеткам**

Сталічныя крамы бытавой тэхнікі і электронікі «Тэхніка ў быце» і «Радыётэхніка» ў бліжэйшы час паўстануць у новым абліччы. У першай будуць прадаваць мэблю, а замест другой сваю краму адкрые сетка «Віталюр». За 100% акцый «Тэхнікі ў быце» было заплочана $3,5 мільёна.

**Гарадская электрычка паедзе ў Рудзенск**

Пастаянны рух пачнецца 7 лістапада. На прамежкавых станцыях цягнік будзе спыняцца ў Лошыцы, Калядзічах, Міханавічах.

ЯМ

# Зрабіць Еўропу адзінай

Артыкул кіраўнікоў МЗС Польшчы і Швецыі **Радаслава Сікорскага і Карла Більта**, напісаны да саміта «Усходняга партнёрства», што пройдзе 28—29 лістапада ў Вільні.

Увесну 2008 Швецыя і Польшча распачалі «Усходняе партнёрства» — амбітную палітычную праграму па збліжэнні з шасцю краінамі Усходняй Еўропы, зацікаўленымі ў больш шчыльных стасунках з ЕС.

Пяць гадоў пазней, напярэдадні трэцяга саміта «Усходняга партнёрства» ў Вільні, мы разам з іншымі высокапастаўленымі асобамі са Швецыі і Польшчы адправімся ў вандроўку ва ўсе сталіцы «Усходняга партнёрства»: Кішынёў, Кіеў, Тбілісі, Баку, Ерэван і Мінск.

Перш за ўсё, мы раскажам пра тое, што ўжо было дасягнута: пра завяршэнне працы над Пагадненнямі аб асацыяцыі і зонах вольнага гандлю з Грузіяй, Малдовай і Украінай. Падпісанне гэтых пагадненняў стане падставай для далейшага паглыблення і пашырэння кааперацыі з ЕС. Мы ўжо падпісалі некалькі Пагадненняў аб спрашчэнні візавага рэжыму, апошняе з якіх — з Арменіяй. Дзе-нідзе ў праграме еўрапейскіх рэформаў назіраецца значны прагрэс. Шмат часу пайшло на ўдасканаленне тэкстаў пагадненняў і ўзгадненне бюракратычных стандартаў, аднак мы зрабілі і рэальныя крокі ў бок свабоднага гандлю і бесперашкоднага перамяшчэння жыхароў краінаўсябраў «Усходняга партнёрства».

Па-другое, мы паведамім аб неабходных захадах для поўнай рэалізацыі праграмы «Усходняе партнёрства». Для гэтага ад краін-удзельніц праграмы патрабуецца адданасць агульным каштоўнасцям. Таксама нам спатрэбіцца аб'яднаныя намаганні ўсіх частак грамадства, каб «выціснуць» максімум з новых магчымасцяў. Рэальная трансфармацыя адбудзецца толькі ў краінах, якія прагнуць зменаў.

Застаючыся вернымі сваім прынцыпам, мы патрабуем ад Беларусі вызвалення палітвязняў і заклікаем партнёраў пазбягаць практыкі «выбарачнага правасуддзя». Мы занепакоеныя некаторым рухам назад у пытаннях дэмакратыі. І мы па-ранейшаму чакаем, што Украіна — першы лідар «Усходняга партнёрства» — зробіць апошні крок насустрач, што дазволіць падпісаць Пагадненне аб асацыяцыі ў Вільні.

Як частыя госці ва Усходняй Еўропе, мы ведаем, што выканаць некаторыя ўмовы зусім нялёгка. Патрабаванні ЕС могуць вымагаць ахвяраў, а некаторым нават прынесць страты. Разам з тым, мы глыбока перакананыя, што здабыткі будуць большымі і за гэтую справу варта ўзяцца.

Усе даследаванні і ўвесь назапашаны досвед гавораць на карысць ЕС і свед чаць пра значную эканамічную выгаду ў доўгатэрміновай перспектыве. Мы назіралі такі эфект на прыкладзе краін, якія сталі сябрамі ЕС у 2004 годзе. Так, напрыклад, тавара разварот паміж Польшчай і Швецыяй амаль падвоіўся цягам некалькіх год пасля прыняцця Польшчы ў Еўрасаюз. Мы маем і прыклад Турцыі з яе эканамічным цудам, забяспечаным больш шчыльнымі эканамічнымі сувязямі з ЕС. І мы ўпэўненыя, што зноў убачым гэта ў краінах, якія падпішуць новыя пагадненні з ЕС і будуць імі карыстацца ў поўнай меры.

Еўраінтэграцыя стане рухавіком рэформаў. Адаптацыя заканадаўства да еўрапейскіх стандартаў можа выклікаць пэўныя цяжкасці, аднак мы бачылі, як у кожнай краіне, што наважвалася на гэта, паляпшаўся дабрабыт, павялічваліся заробкі, а якасць жыцця грамадзян расла. І канечне ж, ЕС будзе гатовы дапамагчы. Толькі ў 2013 бюджэт на падтрымку краін-партнёраў склаў больш за 600 мільёнаў еўра, і чым глыбейшыя рэформы будуць праводзіцца ў краіне, тым больш значную падтрымку яны атрымаюць.

Гэта не чысты альтруізм, а ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва. Стабільныя, багатыя і бяспечныя краіны — найлепшыя суседзі як для нас, так і для такіх краін, як Расія. Падчас нашай вандроўкі мы яшчэ раз выкажам глыбокую салідарнасць з нашымі партнёрамі, якія сталі аб'ектам недальнабачнай знешняй палітыкі ціску з мэтай прымусіць іх адмовіцца ад далейшай інтэграцыі з ЕС.

Мы спадзяемся, што Віленскі саміт стане самітам дасягненняў. У той самы час ён стане адпраўным пунктам глыбейшай інтэграцыі паміж ЕС і краінамі Усходняй Еўропы, што пойдзе на карысць усім бакам. Хоць мы і ўпэўненыя, што дзверы ЕС адкрытыя для любой еўрапейскай краіны, якая жадае далучэння і адпавядае ўсім крытэрыям, падчас гэтай вандроўкі мы не будзем раздаваць абстрактныя абяцанні, а будзем практычна заахвочваць да дзеянняў.

Усе, ад Мінска на паўночным захадзе і да Баку на паўднёвым усходзе, мусяць зразумець, што іх будучыня вырашаецца там, а не ў Варшаве, Стакгольме ці Брусэлі. Для краін-удзельніц «Усходняга партнёрства» логіка простая: глыбіня іх стасункаў з ЕС будзе наўпрост залежаць выключна ад глыбіні іх адданасці справе. Чым больш пераканаўчай будзе праграма еўрапейскіх рэформаў, чым больш амбітным будзе шлях еўраінтэграцыі, тым больш рэалістычным будзе наша бачанне Еўропы, якая ёсць напраўду адзінай і свабоднай.

# Ды-джэй «замовіў» бацьку і бабулю дзеля спадчыны?

Страшны судовы працэс у Гомелі.

Гомельскі абласны суд штотыдзень і часам нават штодзень слухае справы па артыкуле 139 Крымінальнага кодэксу (забойства). Апошнія гады гэтыя справы здзіўляюць сваім крэшчэнда — жорсткасцю, тупасцю, абыякавасцю і цынізмам.

Жыхар Гомеля забіў студэнтку за выпадкова кінутыя абразлівыя словы — 102 нажавыя раненні. Найвышэйшая мера пакарання.

Два жыхары абласнога цэнтра жорстка забілі знаёмага студэнта, які пусціў іх летнім дажджлівым вечарам абсушыцца. Затым адкрылі газавыя фаеркі — каб замесці сляды злачынства (і гэта ў дзевяціпавярховым доме!). 25 і 15 гадоў пазбаўлення волі.

Цяпер Следчы камітэт расследуе крымінальную справу па забойстве 19-гадовай жыхаркі Рэчыцы. Дзяўчыну злачынец так знявечыў, што цяжка было нават вызначыць прычыну смерці. Яна памірала ў страшных пакутах.

За два месяцы да дадзенага злачынства Рэчыцу ўскалыхнула яшчэ адно забойства — 23-гадовай студэнткі Мазырскага педагагічнага ўніверсітэта. Абвінавачваны ў злачынстве — ён былы хлапец, грамадзянін Расіі, аднакурснік. Яна з ім не хацела больш сустракацца, таму ён па-зверску адпомсціў дзяўчыне.

У гэтыя дні Гомельскі абласны суд распачаў слуханні яшчэ адной рэзанананснай «чорнай» справы: забойства 45-гадовага прадпрымальніка і яго маці. Паводле дадзеных следства, замовіў свайго бацьку і бабулю 20-гадовы на той час ды-джэй, а выканаўцам згадзіўся быць яго знаёмы аднагодак.

Цяпер абодва сядзяць на лаве падсудных. Толькі выканаўца «супрацоўнічае са следствам», ахвотна адказвае на пытанні, падрабязна тлумачыць — як планавалася злачынства, як ён забіваў, як хаваў целы забітых.

Замоўца ж не прызнае сваёй віны, усе паказанні свайго знаёмага педантычна запісвае ў нататнік, паводзіць сябе на судзе абсалютна спакойна і адчужана. Доўгія валасы, стылёвая фрызура, модны пінжак, разняволеная пастава — і ніякіх эмоцый на твары...

Такое ўражанне, што ды-джэй, зорка нізкапробных правінцыйных клубаў, выпадкова трапіў за шкляную клетку абласнога суда і знаходзіцца тут у якасці пабочнага назіральніка, а ніяк не абвінавачванага.

Канечне, ды-джэй гэты «валодае велізарным талентам, можа лёгка і хутка запаліць велізарную аўдыторыю, ён літаральна сам крэатыў, яго выступы не маюць аналагаў». Так пішуць пра абвінавачванага на музычных інтэрнэт-старонках.

Але і справа, сапраўды, у Гомелі яшчэ не мела аналагаў.

А меркаваны выканаўца зусім іншы, гапарскага тыпу — коратка пастрыжаны, у спартыўным гарнітуры.

Што паказаў выканаўца? Жудасць! Яго знаёмы, гэты таленавіты музыка, прапанаваў яму хутка і нядрэнна зарабіць. Жыццё таты 20-гадовы жыхар Гомеля ацаніў у $10 тысяч. Восеньскім вечарам у канцы лістапада ў гомельскім бары «Галівуд» знаёмыя разважліва дамаўляліся пра дэталі забойства ў стылі нізкапробных галівудскіх баевікоў. DJ аддаў ключы ад брамкі і хаты свайго бацькі, даў некалькі дзелавых парад. Сам жа застаўся ў «Галівудзе». Як патлумачыў выканаўцу — каб забяспечыць сабе алібі. Сынок скардзіўся, што бацька яму дае мала грошай, і такім чынам ён вырашыў авалодаць у адзін момант усёй маёмасцю, якая перайшла б яму ў спадчыну: дом, дарагія прэстыжныя аўтамабілі, пракат якіх арганізоўваў прадпрымальнік, грошы. Дарэчы, ці малады чалавек забыўся на памятную дату, ці адмыслова прызначыў забойства на дзень напярэдадні бацькавага 45-годдзя.

Пра бабулю, якая жыла разам з бацькам, сынок даў такія інструкцыі: калі будзе спаць — не чапаць яе.

Выканаўца ў той час, пакуль ды-джэй забаўляўся ў «Галівудзе», пайшоў на «справу», прыхапіўшы малаток. Глыбокай ноччу ён адчыніў ключамі брамку, затым — дзверы ў хату і трапіў на веранду. Тут яго нечакана сустрэў прадпрымальнік, які якраз не спаў.

Забойца асалапеў і пачаў нешта вярзці пра сына Максіма, які даў яму ключы, каб забраць нейкую рэч. Агаломшаны быў і прадпрымальнік, сустрэўшы чужынца ў сваім доме ў тры гадзіны ночы. Той жа, спраўіўшыся з непадзяванкай, перадаў ключы мужчыну і ў тую ж хвіліну стукнуў яго малатком па галаве. Прадпрымальнік адхіснуўся, але не ўпаў.

Пачалася барацьба. У верандзе, затым — у хаце, потым абодва ўваліліся ў ванны пакой і там працягвалі біцца. У выніку неяк гаспадар дома заваліў і прыдушыў напādніка. Прачнулася ад шуму бабуля, якую прадпрымальнік папрасіў прынесці нож. Бабуля ж у разгубленасці схапіла закаркаваную бутэльку шампанскага. Тым часам абвінавачваны вырваўся, выхапіў у старой жанчыны бутэльку і стукнуў па галаве мужчыну. Адштурхнуў бабулю. Тая звалілася на падлогу. Забіў бутэлькай шампанскага мужчыну, затым узяўся за бабулю. «За што?» — толькі паспела спытацца старая.

Ад доўгай барацьбы і атрыманых пашкоджанняў забойцу стала блага. Ён пачаў пісаць смс-паведамленні ды-джэю: маўляў, прыязджай, дапамажы мне. Той аднекваўся, маўляў, сам дасі рады. У выніку ўсё ж замоўца прыехаў. Убачыў забітую бабулю — і яму стала блага. Але, нічога, вытрымаў. Даў чарговыя інструкцыі выканаўцу. І «памыў рукі», кінуўшы на развітанне, як Пілат: «Глядзі сам». Маўляў, сам разбірайся далей.

Трупы выканаўца пагрузіў у адзін з аўтамабіляў забітага, спрабаваў выехаць на ім — не ўдалося. Перанёс забітых у хату. Сам жа «пажывіўся» там дарагім алкаголем, айфонам, гадзіннікам «Ролекс». І пайшоў спаць да сябра. Спаў — як пшаніцу прадаўшы, амаль суткі, па яго ж паказаннях. Тым часам замоўца не плакаў, не рваў на сабе валасы, а паехаў у першапрастольную па справах, у матушку Маскву.

Забойца ж пяць дзён яшчэ наведваўся ў хату сваіх ахвяр, выносіў рэчы, якія яму спадабаліся. Нарэшце, праз некалькі дзён пасля злачынства запаліў хату разам з нябожчыкамі. Блізкія сваякоў у нябожчыкаў не было (акрамя дарагога сына і ўнука), таму ніхто не схамянуўся, аж пакуль не загарэўся дом. Прыехалі выратавальнікі, знайшлі целы прадпрымальніка і яго маці.

Адразу стала зразумела, што нешта тут не так, не ад непатушанай цыгарэты загарэўся дом.

Першым узялі сына. Ён адмаўляў сваю віну. Але былі тэлефонныя перамовы, іншыя прамыя і ўскосныя доказы.

Чым скончацца судовыя слуханні — пакуль невядома. Выканаўца ахвотна адказвае на пытанні суда, падрабязна распавядае пра акалічнасці злачынства...

Сваякі ахвяраў у гэтыя моманты горка плачуць у судовай зале, прычым і забойца ж — таксама іх «родная кроў».

Суддзя глядзіць у стол, калі абвінавачваны падрабязна тлумачыць пра малаток, бутэльку шампанскага, як і дзе хаваў трупы, як выносіў алкаголь, айфон, «Ролекс»...

Толькі патэнцыйны замоўца забойства паводзіць сябе спакойна і адчужана.

**Юлія Шымкевіч**

## П'яны настаўнік насмерць збіў студэнтку

Спроба пафарсіць на аўто перад дзяўчатамі скончылася трагедыяй.

«11 кастрычніка прыкладна а 21.00 кіроўца 1990 года нараджэння кіраваў аўтамабілем «Мерсэдэс». Не даў рады кіраванню, выехаў на сустрэчную паласу руху, дзе здзейсніў наезд на пешахода, якая рухалася ў папутным кірунку па левай узбочыне. Пасля наезду на пешахода аўтамабіль перакуліўся. У выніку ДТЗ дзяўчына загінула». Так усё выглядае ў міліцэйскай зводцы. А за сухімі фармулёўкамі — дзявочы лёс.

Трагедыя здарылася ў вёсцы Шарпілаўка ў Гомельскім раёне. 18-гадовая Кацярына жыла там з бацькамі, пакуль некалькі гадоў таму яны не пераехалі бліжэй да Гомеля — у пасёлак Бярозкі. У той дзень дзяўчына прыехала на вёску адведаць бабулю, але так і не паспела расказаць навіны.

Падрабязнасці здарэння прыгадвае Яня. Дзяўчыну таксама зачапіла ў той аварыі, але, на шчасце, напамінам пра той вечар на руцэ засталіся толькі драпіны. «Мы з Кацяй прагульваліся. Ішлі па левай узбочыне. Чулі, як за намі ехала машына. Гэта ўсё так хутка адбылося... Машына праляцела на вялізнай хуткасці, і я адчула моцны боль у руцэ. Паклікала Кацю, а ў адказ — цішыня. Пасля, як яе ўбачыла, у мяне быў шок...»

«Яе ўдарыла так, што рукаў ад курткі адарваўся, красоўкі адляцелі ў розныя бакі. Пазней я знайшла маланку ад курткі і палову раменьчыка ад штаноў, — расказала сястра Кацярыны. — Людзі, якія першыя падбеглі, выцягвалі кіроўцу з машыны, бачылі, што ён ледзь ішоў. Ён сам не адмаўляў, што выпіў 1,5 літра піва. А ён жа настаўнік гісторыі. Паступіў у Мінск у аспірантуру».

Кацярына ж летась паступіла ў Брэсцкі ўніверсітэт — на юрыста, а сёлета перавялася ў Гомель. У сям'і тры дачкі. Каця была старэйшай.

«Чалавек за рулём быў моцна п'яны. Я чула, як ён размаўляў па тэлефоне і ўсё гаварыў пра сваю кар'еру, — прыгадвае са скрухай Яна. — Яго ў той момант хвалявала толькі гэта. Ён яшчэ па тэлефоне камусьці казаў, што бачыў нас: «Адна дзяўчына была ў белай куртцы, а другая — у цёмнай. Я ж проста хацеў пажартаваць».

Хацеў праехаць каля самых дзяўчат — пафарсіць.

**Сяргей Макарэвіч**

## Вышук



**Сяргея Барташа**, 1983 г. н., вышукваюць за тое, што пакінуў лячэбна-працоўны прафілакторый у Светлагорску. Прыкметы: рост каля 173 см, вочы карыя, на верхняй сківіцы няма трох пярэдніх зубоў. Хто ведае месцазнаходжанне Барташа, тэлефануйце на: (029) 677-71-66, (029) 684-94-35, (02334) 3-13-66.




**Мужчына на фота** падазраецца ў крадзяжах з дзіцячых садкоў у Маскоўскім раёне Брэста. Хто ведае гэтага чалавека, звяртайцеся ў міліцыю на нумары: (0162) 47-93-79, (029) 874-77-45, (029) 729-17-64.



**Вольга Бычкоўская**, 1987 г. н., у маі пайшла з дому і не вярнулася. Пражывала ў Хойніках. Раней сыходзіла. Прыкметы: рост 150 см, валасы цёмна-русыя, інвалід дзяцінства 3-й групы. Хто ведае знаходжанне зніклай, тэлефануйце на (02346) 2-25-98.

## Сціслa

### Зарабляў на парнаграфіі

Мінчук размяшчаў у інтэрнэце парнаграфічныя матэрыялы. А за прагляды атрымліваў грошы — агулам больш за шэсць тысяч даляраў з 2006 па 2013. «Здалі» беларуса нямецкія паліцэйскія: яны сабралі і перадалі ўсе матэрыялы беларускім калегам. Цяпер яму пагражае 4 гады турмы.

### У бальніцы памерла дзіця

Бацькі прывезлі дзіця ў пінскую бальніцу — яно праглынула пацеркі. Адразу ж прызначылі аперацыю, але хлопчык памёр у той жа дзень. Распачата крымінальная справа за неналежнае выкананне прафесійных абавязкаў медыцынскім работнікам.

### Участковы застрэліўся выпадкова

Па выніках праверкі было адмоўлена ў завядзенні крымінальнай справы па факце смерці ўчастковага міліцыянта ў Івацэвічах. Фактаў гвалтоўнай смерці не выяўлена. «Цялесныя пашкоджанні ён нанёс сабе ў выніку неахайнага абыходжання з табельнай зброяй — выпадковы стрэл», — паведаміў прадстаўнік УСК па Брэсцкай вобласці Руслан Макарук.

### Адмаўляў віну, але збег ад следства

Былы ахоўнік мінскага ўніверсама «Валгаград», якога падазравалі ў смерці кліента, падаўся ва ўцёкі. Шэраг экспертыз пасля смерці 27-гадовага мінчука, выявілі, што ахоўнік збіваў яго наўмысна. Пакуль праводзіліся экспертызы, падазраваны знаходзіўся пад падпіскай, але, як толькі прыйшлі вынікі, знік.

**КМ**

# Унікальная калекцыя «чарніла»

У сацыяльнай сетцы Facebook з'явілася суполка **«Віно пладовае»**.

Аўтары выкладваюць там мастацкія фотаздымкі бутэлек беларускага таннага віна. Стварылі суполку Ягор Сурскі і фатограф Павел Давідоўскі.

«Як філолага па адукацыі, мяне віно пладовае цікавіла як прыклад беларускай эрганімікі (вывучае назвы цырульняў, бараў, кавярняў). Мала якая група тавараў мае такую разнастайную рамантычнасць назваў, — расказвае спадар Павал. — Дарэчы, у параўнанні з іншымі таварамі, для віна пладовага характэрны высокі працэнт беларускамоўных назваў, якія звязаныя з культурай, традыцыямі, светапоглядам і абрадамі беларускага народа. Таксама на зацікаўленне крыху паўплываў выпадак з украінскімі сябрамі, якіх доўга не мог адарваць ад паліцы ва ўніверсаме, калі яны з захапленнем і смехам вычытвалі назвы...»

Цяпер у калекцыі хлопцаў болей за 300 этыкетак, дзе сустракаюцца такія шэдэўры, як «Старое танга», «Вясёлая карусель», «Фларэаль» і нават «Мадэрна-чарнаплоднарабінавы блюз».

«Аднойчы частаваў пладовым віном аднаго бельгійца, вінароба ў трэцім пакаленні, — расказве спадар Сурскі.- Дык яму напой спадабаўся, нагадаў спецыфічнае віно «розэ» — вінаградная ружовае. Яго ацэнка была — «good but not exceptional» (добрае, але не выключнае). Упэўнены, што ў віна пладовага вялікі турыстычны патэнцыял».

**Юрась Ускоў**

*Чытайце цалкам і глядзіце калекцыю найлепшых этыкетак на nn.by*




# Чаргінец напісаў новы раман. Адзін з персанажаў — здраднік Ліпковіч

Дзяржаўнае выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла раман старшыні афіцыйнага Саюза пісьменнікаў Мікалая Чаргінца. Твор называецца «Аперацыя «Кроў». Раман адкрывае новую старонку «барацьбы насельніцтва Беларусі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі», адзначаецца ў анатацыі.

Звяртае ўвагу, што адным з персанажаў твора стаў яўрэй-здраднік Ліпковіч. «Яны выклікалі агіду нават у гаспадароў, якім служылі, што пісьменнік цудоўна паказаў праз вобраз ката Ліпковіча» — зноў словы з анатацыі.

Прапануем некаторыя ўрыўкі з рамана.

«— Ты там жа жывеш, на Беламорскай?

– Вядома, там жа наш дом.

– А Ліпковіча не ведаеш?

– Як не ведаю, ён жа недалёка жыве.

– Здаецца, ён з немцамі выдатна знюхаўся. Аўсвайсы мае, без апазнавальных габрэйскіх нашывак ходзіць. Але ён жа заўсёды сволаччу быў, стукаў у НКВД на суседзяў, а цяпер вось перакваліфікаваўся».

«Чуў, як Антончык у размове са сваімі сябрукамі згадваў прозвішча Ліпковіча. Антончык казаў, што з Ліпковічам яны нарабавалі шмат золата, здзіўляўся, што Ліпковіч па нацыянальнасці габрэй, але гэта зусім не перашкаджала яму рабаваць і забіваць сваіх супляменнікаў. І яшчэ, Антончык вельмі шкадаваў, што яны разам з Ліпковічам рыхтаваліся адпомсціць гестапа за тое, што арыштавалі і спалілі ў Трасцянцы сям'ю Ліпковіча. Але адбыўся выпадковы выбух.

— А ты не ведаеш, дзе зараз гэты Ліпковіч?

Гэтыя пытанні задаваліся яму і раней. Абрам паўтараў свае паказанні, дадаваў нешта новае.

— Не ведаю. Але, са слоў Антончыка, Ліпковіч выжыў і дзесьці лечыцца, здаецца, у шпіталі.

— А што яшчэ ты ведаеш пра Ліпковіча?

— Больш нічога. — Раптам Абрам вырашыў, што будзе не лішнім сказаць, што Ліпковіч сябраваў з тым гестапаўскім палкоўнікам, якога выкралі».

Скончылася ўсё для Абрама Ліпковіча вельмі сумна. «Мінула яшчэ чатыры дні, і немцы атрымалі яшчэ адзін удар. Ліпковіч, не прыходзячы ў прытомнасць, памёр у турме».

Сам Чаргінец не стаў хаваць, што скарыстаў для гэтага персанажа вобраз вядомага блогера Яўгена Ліпковіча, які некалі зладзіў перформанс са спальваннем кніг старшыні Саюза пісьменнікаў. Потым старшыня Чаргінец прыцягнуў Ліпковіча да адказнасці за абразы ў блогу. Ліпковіч атрымаў штраф. Была нават спроба завесці крымінальную справу супраць блогера, аднак гэта так і не было рэалізавана.

Яўген Ліпковіч наступным чынам пракаментаваў гэта: «Ён усіх папярэджваў, што такое напіша. Чаму не? Мне падабаецца. Не буду пісаць твор, у якім героем будзе Чаргінец. Ён робіць усё магчымае, каб я ўвайшоў у гісторыю. Удзячны яму за піяр. Я, вядома, адкажу. Але не буду заклікаць знішчаць кнігі. Будуць іншыя адказы».

**Зміцер Панкавец**






**Камертон Сяргея Ваганава**

# Бывай, Пятручыа...

Паліў восеньскае лісце.

Ёсць нешта салодка-сумнае ў тым, як, паміраючы, агонь з нейкім уздыхам ізноў падхопліваецца паветрам, дзе праз імгненне ўжо лётае лёгкі, нібы птушыны пух, попел...

Раптам пачуў: «Хавайце, усё хавайце...»

За дымам і не заўважыў, як прыпынілася ля плота вартаўніца Лена. Ну, якая вартаўніца? Лене ўжо за 80, з усяго дачнага насельніцтва яна мо адзіная не з'язджае ў горад, зімуе ў адзіноце. Не памятаю, каб з нейкай іншай прыказкі пачынаўся яе штогадовы абход...

«Што, ужо хаваць? Не зарана?» — «Хавайце... А сусед ваш памёр...» — Лена паправіла хустку і накіравалася да хаты, да новай зімы...

Усё ж памёр. Памёр Пятручыа. З вясны з'явіўся на свае соткі толькі аднойчы, намагаўся нават пакасіць страшэннае, у рост чалавека, быллё. Але адразу адклаў касу ўбок...

Я зірнуў на ягоную хатку. І толькі цяпер убачыў, як падобна яна да яго: такая ж маленькая, скасабочаная, па вокны ўрасла ў зямлю, нібыта патапталася, патапталася па ёй, як таптаўся па сваіх сотках Пятручыа, ды і стамілася...

Але дзе «Запарожац», дакладней, ягоны шкілет? І не заўважыў, калі ён кудысь падзеўся. Мо вывез на звалку?

Сямнаццаць гадоў... Божухна, ужо сямнаццаць гадоў, як я набыў тут дзеля народжанай унучкі недабудаванае, усё ў бадыллі, лецішча! «Не хвалюйцеся, усё будзе добра, па-суседску, — з першага ж знаёмства супакоіў Пятручыа і пафіласофску дадаў: — Зямлі, канечне, малавата. Але паветра хопіць на ўсіх...» З чаго ж хваляваццa? Вочы добрыя, усмешка чамусьці трошкі вінаватая, нязграбная старэчая постаць і салодкі, быццам вось такі восеньскі дым, пах таннага пітва...

Усе сямнаццаць гадоў яно і было ўсё добра, па-суседску, то бок ніяк. Кампаніі Пятручыа не шукаў, піў паціху ў адзіноце, а потым тупаў, нешта мармычачы сабе пад нос, па дачных вуліцах і лясных сцяжынках.

Насамрэч яго звалі Пятром Нікіфаравічам. Пра мянушку Пятручыа я даведаўся пазней, калі аднойчы ён проста так пачаў згадваць, як лятаў у Рым. Той палёт, па ягоных словах,

## Вочы добрыя, усмешка трошку вінаватая і салодкі пах таннага пітва



быў першым, але прайшоў класна. Чаму ж не класна? І «Ту-154» — «класная машына», і лётчык класны, пілот 1-га, як-ніяк, класа. «Лятаў... А потым адмовілі. Пасябраваў з італьянцам, таксама лётчыкам, Пятручыа звался. Ну і паклікалі туды...» — «Куды туды?» — «Куды, куды? Туды!»

Не, нездарма ён гаварыў пра паветра. Не хапіла на ўсіх...

Дарэчы будзе паведаміць, што садовае таварыства, да якога далучыўся і я, нарадзілася ў сярэдзіне 60-х гадоў мінулага стагоддзя на лясным балоце. Утварылі яго цывільныя лётчыкі. І я паспеў яшчэ пачуць, як яны асушалі і карчавалі тое балота, вырубалі хмызняк і хваравітае лясное сухоцце навокал; як лічылі і дзялілі соткі, а потым будавалі хаціны хто з чаго...

У тыя ж гады, кінуўшы дзяржаўную працу, атрымала свае 6 сотак і мая маці. Усю зіму цягалі мы на сабе неабгабляваныя дошкі, цяжкія лісты шыферу і фанеры, каб вясной хуценька збудаваць павец для лапатаў ды грабляў.

Маці так гаспадарыла на сваіх сотках, як быццам намагалася вярнуць доўг свайму сялянскаму паходжанню. А вакол павеці для лапатаў з'явіўся спачатку адзін пакойчык з дошак, потым другі, потым яшчэ адзін нават пад самой страхой...

Мінулай восенню я апынуўся ў тых мясцінах і пайшоў паглядзець, ці пабудавалі там што новыя гаспадары, якім за год да смерці прадала лецішча сястра. Здалёк яшчэ пацягнула дымам: падалося, што, як і паўсюль, там паляць лісце. Але, падышоўшы, убачыў, як дагараюць дошкі з хаты, стол, за якім збіралася ўся наша сям'я — бацькі, жонка, дачка, сястра, пляменнік; як чакаюць таго ж лёсу прапахлая саржавелымі спружынамі канапа, на якой любіў адпачываць бацька, і пацёртае ўтульнае крэсла, якое ў якасці трафея ён прывёз з вялікай вайны...

І вось стаю ля свайго вогнішча з восеньскага лісця, удыхаю салодкі дым... Каму ж паведаміць пра Пятручыа, што памёр? Галіну з Юрам наўрад ці тое ўсхвалюе. Схаваліся за высокім жалезным плотам у вялікім катэджы, пабудаваным на грошы з гандлю сантэхнікай, прарыпелі рассоўнымі варотамі, калі ўязджалі ў шыкоўным джыпе...

Пайшоў да калодзежа, мо сустрэну каго. А вось і Яўген Іванавіч корпаецца на градцы, таксама былы лётчык, тутэйшы майстра на ўсе рукі, чалавек трохі скваплівы ў тым, што тычыцца бескарыслівай дапамогі. «Пятручыа памёр...» — «Памёр? — выпрастаўся Яўген Іванавіч, уваткнуў лапату ў зямлю. — Пойдзем свой «Мерсэдэс» пакажу... Вось, — ён расчыніў гараж, — усё лета працаваў».

Чорна-белы гарбыль «Запарожца» ззяў свежай фарбай і ганарліва насміхаўся жоўтым замежным нумарам на задзе. «Колькі гадоў стаяў раструшчаны! А зараз вось у грыбы буду ездзіць ды смецце на звалку вазіць...» — «З гэтым нумарам?» — «А што? Італія! Еўрасаюз!»

...Кінуў у тлеючы попел апошняе лісце — узнялося полымя, выбухнула, абдало твар гарачынёй і горкім дымам.

Бывай, Пятручыа! Яно і сапраўды зямлі малавата. Затое паветра хопіць на ўсіх...

# Макс Корж — першы беларус, які збярэ «Мінск-Арэну»

**Новая зорка** беларускай музыкі.

Напярэдадні канцэрта выканаўца выпусціў кружэлку «Жыць у кайф». Альбом пачынаецца песняй пра тое, што «я не высыпаюся», хоць завязаў з алкаголем, нікацінам, «ледзь не дайшло да прабежак», але як тут спаць, калі паўсюль «двіж» і твае сябры ацэньваюць тваё жыццё трапным словам «красава!».

Спаць не даюць і не дадуць. На беларускай сцэне ўрэшце з'явіўся нехта, хто спявае актуальную поп-музыку для моладзі. Папулярнасць Каржа лёгка тлумачыцца: ён стаў альтэрнатывай усяму, што круціцца ў беларускай поп-музыцы. Калі на Песні года Беларусі — 2006 і на выніках леташняй Першай музычнай прэміі гучаць адныя і тыя імёны, то абіраць паміж Сашам Нема, Германам і Іванам Буслаем не хочацца.

Песні Макса Каржа маюць некалькі сакрэтаў: палову з іх можна сыграць у двары на гітары любой якасці, іх дыяпазон не разбягаецца далей за чатыры-пяць акордаў.

«Макс Корж прадаецца вельмі добра, — кажуць арганізатары канцэрта. — Пра колькасць прададзеных квіткоў мы казаць не можам, аднак гарантавана, што Корж збярэ «Мінск-Арэну» цалкам, гэта значыць 13 000 чалавек». Канцэрт адбудзецца 2 лістапада.

Макс Корж нарадзіўся ў 1988 у Лунінцы. Музыку пачаў запісваць у сямнаццаць гадоў, спачатку спяваў па-беларуску. Поспех Каржу прынёс дэбютны альбом «Жывёльны свет».

**Юрась Ускоў**


Макс нарадзіўся ў Лунінцы і пражыў баявую маладосць



**Фотафакт**

### У праваабаронцы Лабковіча нарадзіліся двайняты

Праваабаронца Уладзімір Лабковіч стаў шматдзетным бацькам. У яго нарадзіліся два хлопчыкі. «Першага, хаця розніца ў іх у некалькі секунд, назвалі Адамам, другога — Янам. Наша першая дачка Адэля дапамагала выбіраць — ёй гэтыя імёны найбольш спадабаліся з прапанаваных».

Роды прайшлі добра.

На момант здачы нумара ў друк Уладзімір яшчэ не трымаў дзяцей у руках. «Тэхніка дазваляе — мог здымкі паглядзець».

## Памерла заснавальніца мінскага эротык-шоу

**Насці Бруснікінай (Анастэйшы)** было 28 гадоў.

У 2010 годзе Насця стала кіраўніком і харэографам мінскага танцавальнага шоу «All Inclusive». У яе засталася маленькая дачка.

«Яна ніколі не скардзілася на сэрца, а тут адбылася нечаканае спыненне, вострая недастатковасць», — кажа калега і сяброўка Надзея Ляўкова.

«Наста была выдатным, яскравым чалавекам, — кажа сябар танцоркі Дзяніс Іваноў. — Яе шоу заўжды былі запамінальнымі. Як казаў нехта з сяброў, у жыцці яна была вельмі спакойнай, аднак на сцэне пераўтваралася ў тыгрыцу. Наколькі мне вядома, у яе былі няпростыя адносіны з бацькамі».

**ЮУ**


Анастэйша сама выбрала сабе спецыфічную працу і доўга не вытрымала.

## Памёр вядучы БТ Юрый Леднік

Яму было **38 гадоў**.

Леднік нарадзіўся ў 1975 годзе. Былыя супрацоўнікі БТ кажуць, што прычынай смерці стаў рак.

Юрый Леднік быў намеснікам дырэктара Агенцтва тэлевізійных навінаў. На тэлебачанне ён прыйшоў у 2003 годзе. А вядомасць набыў прапагандысцкай перадачай «P.S.».

Нярэдка прадстаўнікі апазіцыі і незалежнага грамадства абвінавачвалі Ледніка ў хлусні.

«Я стараюся, каб у маім жыцці была не толькі праца. Мне важна ўдзяляць час сваёй сям'і, каб мае блізкія бачылі мяне дома. Трэба захоўваць разумны баланс. Маё кіраўніцтва разумее, што, акрамя працы, ёсць яшчэ і сям'я, якая патрабуе майго непасрэднага ўдзелу», — казаў ён сёлета ў інтэрв'ю газеце «Звязда».

**ЗП**

**Кадры**

### У Акадэміі навук — аграрны эканаміст



Уладзімір Гусакоў — новы старшыня Прэзідыуму Нацыянальнай акадэміі навук.

Нарадзіўся ў 1953 у вёсцы Батвінава Чачэрскага раёна. Вучоны ў галіне аграрнай эканомікі. Скончыў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію. Працаваў эканамістам у калгасе «17-ы партз'езд» Слаўгарадскага раёна. Ад 1981 — супрацоўнік Акадэміі навук. Навуковыя працы пісаў па арганізацыі кіравання працы ў сельскай мясцовасці.

### Яшчэ адзін магілёўскі ва ўрадзе



Анатоль Чорны — новы міністр архітэктуры.

Нарадзіўся ў 1958 у Чарняхоўску Калінінградскай вобласці. Скончыў Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут. Працаваў галоўным інжынерам у Магілёўаблсельбудзе. У 2002—2010 быў генеральным дырэктарам ААТ «Лаўсанбуд». Апошнія тры гады працаваў намеснікам старшыні Магілёўскага аблвыканкама.

## Герб «Пагоня»: створаныя жывыя шпалеры на Андроід

Суполка распрацоўшчыкаў Flaxtreme апублікавала ў электроннай краме Play Маркет праграму «Герб «Пагоня».

«Гэта жывыя шпалеры, пакуль што яны даступныя толькі для ўладальнікаў смартфонаў і планшэтаў з аператыўнай сістэмай Андроід», — тлумачаць распрацоўшчыкі.

Шпалеры з паралакс-эфектам — гэта панарамная карцінка, якая «выходзіць» за межы экрана. Калі перасоўваць смартфон у паветры, выява перасоўваецца ўслед за рухамі.

Праграма ўтрымлівае пяць стыляў «Пагоні», а таксама ў якасці бонуса тэкст верша Максіма Багдановіча і спасылку на артыкул пра герб у «Вікіпедыі».

Бясплатна спампаваць шпалеры можна ў краме Play Маркет па ключавых словах «Герб «Пагоня».

**Ягор Марціновіч**



# Беларуская глыбіня. **Воля**

Піша **Павел Севярынец.**

*Ойча наш,*
*Каторы ёсць у небе!*
*Свяціся імя Твае,*
*прыйдзі Валадарства Твае,*
*будзь воля Твая...*
*Лукі 11:2*



**Павел Севярынец**
палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Кupліне Пружанскага раёна.

У Волі залатыя валасы. Сонечныя прамяні скрозь успышкі жоўтага лісця кранаюць вейкі, і ты прымружваешся, нібы перад пацалункам. Свята грае проста ў цябе на тварына агністай, мядовай, бурштынавай, настоенай на палым кляновым і таполевым лісці свежасцю.

Потым залацістыя струны будуць то тут, то там праблісківаць на тваім шэўры і расплятаць згадкі разам з галавакружным водарам.

У Волі шэрыя вочы. Глыбокія, родныя вочы агромністага шэрага неба, якое ўдыхаеш на поўныя грудзі. Беларусь, мілая, я з табой.

У Волі крынічна звонкі і меладычны голас. Удых з верхавінаў хвояў, чые адлюстраванні тонуць у безданях Нарачы, і выдых з шумам мінскіх вуліцаў.

Пазбаўленыя волі ведаюць — яе чакаеш так, як спатканне з каханай. Толькі заплюшчы вочы і ўяві. Перасыхае ў роце... Сэрца калоціцца, хоча вырвацца і мячыкам скакаць проста ў яе цёплыя, ласкавыя далоні.

Воля прыходзіць ці ў летняй лёгкай сукенцы, перахопленай пасам, і тады яе аблічча праменіць залатавалосым німбам, ці ў вышыванцы з белі і чырвані, жывым сцягам на цёплым вясновым ветры, ці ў пухнатай зімовай куртачцы ды высокіх боціках, так што вакол робіцца горача, ці ў шляхетным восеньскім паліто, якое акрэслівае зграбнай лініяй стан і так пасуе яе каралеўскім вачам колеру беларускага неба.

Яна моўчкі, пяшчотна абдымае цябе, ледзь кранае шчаку вуснамі, быццам запальвае зорку, і лёгенькі дотык пальчыкаў на плячох дае табе адчуць адказнасць за свет вакол нас.

Воля як *свабода* ў беларускай мове азначае таксама і радасць у дзеянні. Каму, як ні беларусам, хрысціянскаму народу, ведаць, што моцная воля ўласцівая толькі свабодным.

Наша нацыянальная бязвольнасць пачынаецца тады, калі беларус адварочваецца ад Бога. Прыкрае відовішча — п'яная і распусная Рэч Паспалітая эпохі падзелаў, атэістычная Савецкая Беларусь або запалоханая эрбэ, што вось ужо два дзясяткі гадоў зносіць усе выбрыкі крыклівага дырэктара саўгаса.

Вызваленне, Дзень Волі, вольная воля, валявы ўчынак... Воля прысутнічае ва ўсім тым, чаго нам так не хапае.

*Вольная* — адно з тлумачэнняў імя Беларусі. Вось чаму беларусы так часта называюць сваіх дачок Волямі.

Воля вытанчаная. Воля грацыёзная. Воля патрабавальная — здольная адным упартым шэравокім позіркам з-пад узмаху тонкіх выгнутых бровак даць зразумець, што рабіць, і натхніць на тое, што не пад сілу іншым.

Воля ласкавая — ад цеплыні подыху, у які акунаешся па выхадзе з камеры, да найменшых, амаль незаўважных дотыкаў, кожны з якіх — знак.

Здаецца, яшчэ крапелька пяшчоты — і страціш прытомнасць ад шчасця.

Вялікая беларуская воля, здольная на самаадданасць, ахвярнасць і штодзённую святасць, — вобраз і падабенства тае Волі, што вяла на Галгофу Збаўцу.

Паэт нашага вольнага залатога веку Андрэй Волян (амаль што Волін) пісаў «Да палякаў і ліцвінаў»:

Дай жа, Божа, каб воля вас
упадабала,
Ды на ёй свабода ўжо
не панавала…

Беларуская Воля — гэта свабода ў Хрысце. Адкрываеш сэрца для цэлага сусвету веры і любові, каб умясціць Неўмяшчальнага.

«А хто не любіць Волі — не нашага роду».

Купала, у кропку.

Куплін, бывай.

Вольна, як жа вольна... Узгоркі і лагчыны дыхаюць, уздымаюцца і апускаюцца з шумам ветру абапал дарогі. Неба праз сінявату смугу пераліваецца ў зямлю на даляглядзе — асцярожна, павольна, быццам блакітнае малако з велізарнай даёнкі льецца, льецца ў кубак, блішча донцам сонца, дзесьці па-над Еўропай, апракідваецца глыбокім закатам... І трапеча лісце дрэваў пвітальнымі ўзмахамі, і ловіш іх позіркам на імгненне, і так хочацца паспець кіўнуць у адказ.

Вочы, цёплыя ўсмешкі, крышталёвыя слёзы матулі, пацiскі рук, «О-О-О!» з самай беларускай глыбіні, усе гэтыя светлыя чалавечыя вокны, быццам агні вялікага горада, праз якія на цябе глядзіць Госпад.

І радзімка ля яе вуснаў.

І прысутнасць чагосьці найвышэйшага.

І ты раптам разумееш, што лямант званка на праверку а шостай раніцы, малатарня жалеза на складзе, цёмная, з выкручанымі лямпачкамі, задушлівая ад курадыму і мачы, вечна ліпкая супольная прыбіральня, і куплінскае неба, нарэзанае на празрыстыя лусты кратамі, — гэта ўсё было дадзена, каб адчуць пякучча, пранізліва, усім сэрцам яе чысціню, яе ласку, яе харaство.

Ясную. Любую. Найпрыгажэйшую.

Волю Божую.

*Куплін*

# «Проба грунту ў Казахстане»:
## нямецкі тэатр працягвае справу Алексіевіч

**На міжнародным тэатральным форуме «Тэарт» у межах тыдня Германіі адбыўся паказ спектакля «Проба грунту ў Казахстане».**

Сёлетні «Тэарт» справядліва лічыцца адной з галоўных падзей у культурным жыцці Беларусі. На працягу трох тыдняў гледачы маюць магчымасць убачыць пастаноўкі такіх зорак еўрапейскай рэжысуры, як Кшыштаф Варлікоўскі («(А)палонія») і Ян Клята («Песня пра маці і айчыну») з Польшчы, Юрый Бутусаў («Добры чалавек з Сезуана») і Канстанцін Багамолаў («Лір») з Расіі, Алвіс Херманіс («Доўгае жыццё») з Латвіі. Але нават на іх фоне вельмі годна глядзелася пастаноўка Штэфана Кэгі «Проба грунту ў Казахстане» (паказ прайшоў пры спрыянні Інстытута імя Гётэ ў Мінску).

У 2000 годзе гэты рэжысёр разам з двума калегамі стварыў у Берліне тэатральную групу «Рыміні Пратакол», якая ажыццяўляе пастаноўкі ў жанры «дакументальнага тэатра». Апошняму ўласцівы такі падыход, калі стваральнікі спектакля запісваюць рэальных людзей, чые маналогі і дыялогі потым прамаўляюцца на сцэне прафесійнымі акцёрамі. Але «Рыміні Пракатол» пайшоў далей: у пастаноўках гэтага калектыву паўстаюць рэальныя дзейныя асобы і распавядаюць гісторыю ўласнага жыцця. Напрыклад, на сёлетнім Авіньёнскім фестывалі (адным з самых прэстыжных у свеце) пра сябе са сцэны расказвалі нігерыйскія бізнэсмэны.

Узнікае лагічнае пытанне: чым жа пастаноўкі «Рыміні Пратакол» адрозніваюцца ад аматарскіх? Адказ просты: арыгінальнасцю мыслення пастановачнай групы і прафесіяналізмам выканаўцаў, дзякуючы чаму дзейныя асобы не адрозніваюцца ад прафесіяналаў, а мастацкі вынік належыць да высокага мастацтва.

«Проба грунту» распавядае гісторыю пяці герояў, чый лёс звязаны з транспарціроўкай нафты. Герд Бауман з ГДР займаўся распрацоўкай «чорнага золата» ў Іраку, Іарданіі, Аўстрыі і Казахстане. Генрых Вібе да выхаду на пенсію развозіў паліва з завода, які перапрацоўвае «чорнае золата». Казах Нурлан Дусалі прадае нафту, а пазней сонечныя батарэі ў Германіі. Хелене Сімкін вырасла каля Байканура, а пазней працавала ў авіякампаніі ў Гановеры, прыбыткі якой залежаць ад развіцця нафтавай індустрыі. Для таджычкі Алены Панібратавай суседні нафтавы Казахстан заўсёды паўставаў тэрыторыяй багацця...

Чым жа нямецкая пастановачная група працягвае справу Алексіевіч? І ў кнізе «Час сэкандхэнд», і ў нямецкай пастаноўцы ідзе гаворка пра прадстаўнікоў савецкай цывілізацыі, якая амаль сышла ў нябыт. Але існуе і адрозненне. Герояў Алексіевіч яднаў ідэалістычны фактар: вера ў камуністычныя ідэалы (таму яны працягваюць жыць у постсавецкім свеце, кіруючыся савецкімі стэрэатыпамі). Пяцёрку выканаўцаў з нямецкага спектакля яднае супольнае мінулае прадкаў (усе яны — немцы, якія прыехалі ў Расію яшчэ падчас каравання Кацярыны ІІ) і матэрыяльны фактар (нафта). Іронія лёсу, але ў гісторыі былых савецкіх рэспублік ідэалогія і нафта знітаваныя непарыўнай сувяззю. Магутнасць СССР перыяду «застою» і яго падтрымка краін сацыялістычнага лагера шмат у чым грунтавалася на высокіх коштах нафты, «чорнага золата» (а зусім не на перавагах сацыялістычнага ладу). Рэзкае падзенне цэнаў у 1986-м нанесла страшэнны ўдар па савецкай эканоміцы і паўплывала як на яе выніковы крах, так і на распад СССР.




У жыцці герояў эканамічная мэтазгоднасць даўно замяніла веру ў былыя ідэалы. Таму не дзіўна, што пяцёра выканаўцаў ментальна належаць ужо да наступнага, постсавецкага, пакалення. І ніхто, акрамя Хелены Сімкін, не імкнецца вярнуцца дадому. Але цалкам забыцца пра Казахстан, з якім звязана іх юнацтва і маладосць, яны не могуць. Нездарма героі спектакля бачаць на экране свае родныя мясціны, а таксама сваякоў, камунікацыя з якімі адбываецца праз відэасувязь.

І Штэфан Кэгі, і Святлана Алексіевіч даюць магчымасць шараговым людзям распавесці пра сваё жыццё. Успаміны апошніх ювелірна сканструяваныя ў межах літаратурнай ці сцэнічнай прасторы. Расповеды дазваляюць закрануць галоўныя пытанні і праблемы ХХ стагоддзя, якія катком прайшлі па лёсах герояў. У «Пробе грунту...» гэта Другая сусветная вайна, выпрабаванне ядзернай зброі, касмічная гонка паміж Савецкім Саюзам і ЗША, распаўсюд на постсавецкай прасторы рынкавых адносін, эміграцыя і бежанства.

Прынцыпова, што постсавецкія героі Штэфана Кэгі такія ж адзінокія і мала каму патрэбныя ў свеце, як і савецкія героі Алексіевіч. Іх лёсы сталі цацкай у руках палітыкаў. Нездарма Генрых Вібе абвінавачвае Гітлера, Сталіна, Хрушчова, Гарбачова і Коля, з-за якіх усё жыццё быў вымушаны перасяляцца з краіны ў краіну.

«Проба грунту ў Казахстане» — вельмі шчыры і па-мастацку пераканаўчы партрэт пакалення. Спектакль перадае подых ХХ стагоддзя і паказвае макракосмас грамадства праз мікрасвет асобы.

**Дзяніс Марціновіч**

*Матэрыял створаны пры падтрымцы Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Мінску*

# «Нафта разбэшчвае. І людзей, і ўрад»

Дзякуючы нафце, Баку стаў падобным да «квітнеючага саду».

«Тут, бацэнька, усё падпарадкаванае інтарэсам нафты», — пісаў у апошняй па часе частцы дэтэктываў пра сышчыка Эраста Пятровіча Фандорына Барыс Акунін. Кніга называецца «Чорны горад», а дзеянні адбываюцца ў «самым усходнім горадзе Захаду» — гэта значыць Баку — у апошнія гады існавання Расійскай імперыі.

Тады на Апшэронскім паўвостраве здабывалі 90% усёй расійскай нафты і каля паловы нафты свету. Азербайджанская нафта ляжыць амаль на паверхні. У Тэхасе, каб трапіць да «чорнага золата», свідравіны трэба было бурыць у пяць разоў глыбейшыя.

«Горад-нуварыш», казалі тады пра Баку. Горад імкліва разрастаўся. Ён захоўваў і азіяцкія традыцыі, але некаторыя праспекты і бульвары хутчэй нагадвалі Ніцу. У Баку працавала вялізная колькасць замежных грамадзян, дыпламатаў, шпіёнаў. Нафта прыцягвала і людзей, і грошы.

Потым быў Савецкі Саюз, дзе Азербайджан быў адной з найбольш адсталых рэспублік, нават суседнія Арменія і Грузія былі ў лепшых умовах. Фактычна, незалежнасць Азербайджан сустракаў у жабрацкім стане, і так працягвалася аж да першай паловы нулявых гадоў XXI стагоддзя, калі цэны на нафту ўзляцелі да нябёсаў, а грошы зноў паліліся на беразе Каспія.



Здабыча нафты ў Каспійскім моры.

**Нафта — гэта парасон для ўрада, каб не праводзіць рэформы »**

### Праспект Нафтавікоў

Галоўная вуліца Баку называецца праспектам Нафтавікоў. Па шчырасці, нават не ўяўляю, як бы ён мог называцца па-іншаму, што б яшчэ гэтак падкрэсліла першаснасць і значнасць гэтага карыснага выкапня для эканомікі краіны. Некалі праспект быў названы ў гонар Аляксандра II, потым — Сталіна. Але ўсё гэта было штучным, нанасным. Праспект Нафтавікоў — назва арганічная. Нафта грае вырашальную ролю ў сённяшнім жыцці Азербайджана.

«Некалі Financial Times напісала, што Баку сёння дае 1% нафты свету, але па горадзе складваецца ўражанне, што зноў не менш за палову», — кажа палітолаг Расім Мусабекаў.

«Азербайджанская эканоміка — гэта нафтавая эканоміка», — пачынае размову былы кіраўнік Дзяржаўнай Азербайджанскай нафтавай кампаніі Сабіт Багіраў. Сёння ён узначальвае недзяржаўную арганізацыю, што займаецца праблемамі прадпрымальніцтва.

### Ці будзе пастаўляцца ў Беларусь?

Мяне найперш цікавіць, ці магчыма ўсё ж пастаўляць нафту, што здабываецца ў Каспійскім моры, у Беларусь, ці можа быць альтэрнатыва расійскім пастаўкам.

У ліпені 2011 года афіцыйнае агенцтва БелТА апублікавала радасную навіну: «Мазырскі НПЗ пачаў прыём азербайджанскай нафты». На жаль, за такім шматабяцальным пачаткам працягу так і не дачакаліся.

«Пасля будаўніцтва нафтаправода Баку — Тбілісі — Джэйхан усё, што можна прадаваць, ідзе па гэтай трубе. І гэта разумна з эканамічнага гледзішча. І цэны, і тарыфы больш выгадныя», — кажа сп.Багіраў.

Ён называе бздурай меркаванні, што азербайджанская нафта не ідзе ў Беларусь, бо таго не дазваляе Расія. «Гэта выключна камерцыйныя моманты».

Багіраў тлумачыць, што тут пытанне не ў эканоміцы, а ў палітычнай волі: «Дамовяцца кіраўнікі дзяржаваў — нафта будзе пастаўляцца ў Беларусь, хай і са стратамі для нас. Але дзеля гэтага беларусы пойдуць на нейкія іншыя саступкі».

### Газ

Тым не менш, нафтавыя запасы Азербайджана не бясконцыя. З даказаных радовішчаў нафты маецца толькі 1,2 мільярда тон. Прыкладна столькі ж мае Нарвегія. Расія мае 13 мільярдаў, а Саудаўская Аравія ўвогуле — 36.

Разам з тым у Азербайджане ёсць вялізныя запасы прыроднага газу. «Усё зафрахтавана да 2025-2030 года, — кажа Багіраў. — Ёсць графікі, уплішчыцца ў іх практычна немагчыма. Кітай у Туркменістане як зрабіў? Яны ўзялі ўчастак на разведку. Яшчэ здабычы няма, а яны ўжо будуюць газаправод. Кітай — багатая краіна, яны могуць сабе такое дазволіць. Беларусь жа не можа сабе дазволіць інвеставаць у газаправод, калі яшчэ няма рэальных аб'ёмаў здабычы».

Ненафтавы сектар эканомікі Азербайджана развіты крайне слаба, у вялікай ступені прадстаўлены толькі сферай абслугоўвання, лёгкай прамысловасцю і ў нейкай ступені сельскай гаспадаркай. Каля трох чвэрцяў паступленняў у бюджэт — гэта нафтавыя грошы. А ёсць і Дзяржаўны нафтавы фонд, у якім каля 40 мільярдаў даляраў.

### Карупцыя

Вялізная нявырашаная праблема, якая спараджаецца ў тым ліку нафтавым прыбыткам, — гэта карупцыя. Я расказваў у Баку, што прыкладна раз на тыдзень Лукашэнка саджае ў турму кагосьці з чыноўнікаў, каб засведчыць барацьбу з карупцыяй. Узгадаў выпадак з намеснікам старшыні Мінгарвыканкама Васільевым, які трапіўся на хабары ў памеры 500 тысяч даляраў. «Паўмільёна? — здзіўлена перапыталі ў мяне. — Для нас гэта зусім не грошы».

Для барацьбы з карупцыяй на нізавым узроўні колькі гадоў таму ў Азербайджане быў распрацаваны добра вядомы беларусам «прынцып аднаго акна». Пакуль ён дзейнічае не паўсюль, а толькі ў некаторых раёнах. Кажуць, людзі вельмі задаволеныя.

«Азербайджанцы, як ні дзіўна, самі правакуюць карупцыю. Карупцыя на найвышэйшым узроўні для нас проста недасяжная. У нас нават не хапае фантазіі, каб уявіць яе сапраўдныя памеры. Калі ж карупцыя датычыць простых чыноўнікаў і простых азербайджанцаў, то я бачу паралельную віну абодвух бакоў. Азербайджанцы не звыкліся доўга чакаць перад офісам ці перапісвацца. Яны прыходзяць і просяць зрабіць даведку цягам гадзіны, вырашыць іншыя праблемы. Натуральна, што ў замену нешта абяцаюць», — расказвае праваабаронца Аваз Хасанаў.

**Пытанне паставак азербайджанскай нафты ў Беларусь — палітычнае »**

Стандартная плата «на лапу» ў бальніцы ці ў сістэме ЖКГ складае 3-5 манатаў (35-60 тысяч рублёў).

Некалькі гадоў назад у Азербайджане была прынятая пастанова, якая абавязвае багатых людзей штогод дэклараваць свае даходы, але анекдатычнасць сітуацыі заключаецца ў тым, што да гэтага часу не распрацаваныя бланкі для дэкларацый. Таму ніхто і не адчытваецца. Вядома, за багацці людзі плоцяць уладзе поўнай палітычнай лаяльнасцю. Ніякай гаворкі пра тое, што нехта з мільянераў-мільярдэраў падтрымае апазіцыю проста не вя-дзецца.

«Нафта разбэшчвае. І людзей, і ўрад. Нафта — гэта парасон для ўрада, каб не праводзіць іх вельмі-вельмі марудна. Каб 7 гадоў распрацоўваць формы для дэкларацый», — скончвае размову Сабіт Багіраў.

«Калі ты не вельмі занепакоены, каб ствараць умовы для бізнэсу, падаткаў, калі ты не занепакоены тым, як зарабіць, а толькі як патраціць, то тут і ўзнікае карупцыя. Гэта бяда для ўсіх краін з нафтай (апроч Канады і Нарвегіі). Карупцыя ў Венесуэле ці Нігерыі большая, чым наша. А самы дарагі горад у свеце — гэта Луанда», — кажа палітолаг, дэпутат Мілі Мэджлісу Расім Мусабекаў.

Вядома, грошы не толькі раскрадаюцца. Вялікая частка ўкладаецца ў гарадскую інфаструктуру. Баку — гэта «квітнеючы сад», як сказаў бы адзін нам вядомы беларускі палітык.

### Будучыня

Сёння ў Баку мала хто пераймаецца, што ж будзе, калі нафта скончыцца ці калі цэны на яе ўпадуць. Усе ўпіваюцца багаццем, якое сыплецца на галовы зараз. Энергетычная стратэгія Еўрасаюза 20-20-20 абвешчана некалькі гадоў таму. На 20% знізіць выкіды вуглякіслага газу ў атмасферу, на 20% павысіць выкарыстанне альтэрнатыўных і ўзнаўляльных крыніц энергіі. І на 20% павысіць эфектыўнасць энергарэсурсаў. Еўропа інтэнсіўна ідзе ў гэтым кірунку. «Газпрам» зменшыў пастаўкі газу ў Еўропу не таму, што так захацеў. А Азербайджан жа пакуль ніяк не прасоўваецца ў гэтым кірунку.

**Зміцер Панкавец, Баку — Мінск**

**Аліева пераабралі**

9 кастрычніка ў Азербайджане прайшлі прэзідэнцкія выбары. Паводле афіцыйных дадзеных, дзейны прэзідэнт Ільхам Аліеў набраў больш за 84%. Апазіцыя не здолела навязаць барацьбу. Масавых акцый пратэсту пасля выбараў не было.

# Чырвоная сукенка

Лаўрэат Нобелеўскай прэміі 2013 года **Эліс Манро**. Апавяданне.

Мама шыла мне сукенку. Цэлы лістапад, калі я вярталася са школы, яна сядзела на кухні, абкладзеная абрэзкамі чырвонага аксаміту і выкрайкамі. Яна шыла на старой нажной машынцы, якую падсоўвала бліжэй да акна, каб было відней і каб паглядаць, ці не ідзе хто па дарозе за голым агародам, за іржышчам. Але там рэдка хто ходзіць.

Аксаміт — матэрыя складаная: ён сыплецца, дый фасон мама абрала не самы просты. Яна не вельмі добра шыла. Яна любіла рабіць штосьці сваімі рукамі. Гэта інакшае.

На фастрыгаванні, прапарванні дэталяў прасам мама час, па магчымасці, эканоміла, а такія тонкасці кравецтва, як абкіданне пяцелек на гузікі ці швоў, дык і зусім не выклікалі ў яе энтузіязму, не тое што ў цёткі ці, скажам, бабулі. У адрозненне ад іх, маму вяло натхненне — смелая, яркая задумка; але чым бліжэй да мэты, тым менш ёй было ахвоты шыць. Пачнем з таго, што мама ніколі не магла падабраць выкрайку сабе па душы. Дзіва што: якая выкрайка магла параўнацца з ідэямі, што квітнела ў яе галаве. Яна была пашыла мне кісейную сукенку ў кветачкі з глыбокім віктарыянскім выразам, аточаным колкімі карункамі, і адпаведны каптурок у дадатак; гарнітурчык з шатландкі, з аксамітным пінжачком і берэцікам; вышыванку з пышным чырвоным андаракам і чорнай карункавай гарсэткай. Усе гэтыя дзіцячыя строі я насіла паслухмяна і нават з прыемнасцю — тое было ў часы, калі мяне не хвалявала меркаванне людзей навокал. Цяпер я стала разумная і марыла пра сукенкі, як у маёй сяброўкі Лоні, — фірмовыя, з універмага «Білз».

Мяне чакала прымерка. Часам Лоні заходзіла да мяне пасля школы, сядзела на канапе і назірала. Я саромелася, што мама поўзае вакол мяне, саромелася яе сапення, хрусту яе каленак. Яна нешта мармытала сабе пад нос. Дома яна хадзіла без станіка і панчохаў, на ёй былі тапкі на танкетцы і шкарпэткі — на нагах бугрыліся сінюшныя вены. Від мамы на кукішках здаваўся мне ганебным і нават непрыстойным; я старалася заняць Лоні размовай, каб, наколькі гэта было магчыма, адцягнуць яе ўвагу ад мамы. Перад дарослымі Лоні ўмела напускаць на сябе выгляд стрыманай, ветлівай, зычлівай дзяўчыны, а калі тыя не бачылі, люта высмейвала іх.

Мама энергічна паварочвала мяне, абколваючы шпількамі. Яна прымушала мяне то кружляць па кухні, то дэфіляваць, то стаяць на месцы. «Як табе, Лоні?» — пыталася яна, не выпускаючы шпілек з куточка вуснаў.

«Прыгожа», — адказвала Лоні, мякка і пяшчотна, як яна ўмела.

У самой Лоні мама памерла. Лоні жыла з татам, і яму было на яе напляваць, і таму я адначасова моцна спачувала ёй і моцна зайздросціла.

«*Будзе* прыгожа, калі толькі ўдасца падагнаць па росце, — адказвала маці. — Ну вось, — тэатральна працягвала яна, з крэхканнем уздымаючыся. — Не ведаю, ці яна гэта ацэніць».

Я шалела, калі мама размаўляла з Лоні вось так, нібы Лоні — дарослая, а я ўсё яшчэ дзіця. «Стой спакойна», — казала яна, сцягваючы сфастрыгаваную і сколатую шпількамі сукенку мне цераз галаву. Аксаміт душыў мяне, агаляючы маё цела ў старой баваўнянай камбінацыі, якую я насіла пад форму. Я здавалася сабе няўклюднай калодай, пакрытай гусінай скурай. Мне хацелася быць, як Лоні — тоненькай, худзенькай, з бледна-блакітнай скурай; раней у яе быў парок сэрца.

«Калі я хадзіла ў школу, мне не было каму шыць, — казала мама. — Або шый сама, або ідзі без сукенкі». Я баялася, што яна зноў пачне расказваць, як ішла ў горад пешкі адзінаццаць кіламетраў наймацца афіцыянткай у пансіянат, каб было на што вучыцца. Усе гісторыі матчынага жыцця, якія раней захаплялі мяне, цяпер здаваліся меладраматычнымі, нуднымі і расказанымі не да месца.

«Аднойчы мне пазычылі сукенку, — працягвала яна, — з крэмавага кашэміру, з ярка-сінім кантам і мілымі перламутравымі гузікамі. Вось цікава, ці яна яшчэ ёсць?»

Калі прымерка скончылася, мы з Лоні падняліся ў мой пакой. Там было халодна, але мы засталіся там. Мы размаўлялі пра хлопцаў з класа, перабіралі іх, парту за партай, пыталіся адна ў адной: «А гэты табе падабаецца? Не, ну трошкі? Ты яго *ненавідзіш*? А ты з ім хадзіла б, калі б ён прапанаваў?» Але ніхто нам не прапаноўваў. Нам было трынаццаць, і мы ўжо два месяцы вучыліся ў дзявятым класе. Мы праходзілі тэсты ў жаночых часопісах, каб даведацца, ці маем мы індывідуальнасць і ці будзем мець поспех у супрацьлеглага полу. Мы чыталі пра тое, як накласці макіяж, як падкрэсліць выгадныя рысы, пра што размаўляць на першым спатканні і што рабіць, калі ён зайшоў занадта далёка. Таксама мы чыталі пра фрыгіднасць, менапаўзу, аборты і чаму мужы ходзяць налева. Увесь свабодны ад заняткаў час мы збіралі, асэнсоўвалі і абмяркоўвалі інфармацыю пра сэкс. Мы пакляліся дзяліцца адна з адной усімі сакрэтамі. Але я ніяк не магла сказаць Лоні пра танцы — пра калядную вечарыну ў школе, дзеля якой мама і шыла мне сукенку. Не магла сказаць ёй, што не хачу ісці.

Школа была для мяне адным бясконцым стрэсам. Я не ведаю, ці для Лоні таксама. Перад іспытамі ў яе халадзелі рукі і заходзілася сэрца, а я, я была ў роспачы ўвесь час. Калі мне задавалі пытанне на ўроку — любое, нават самае лёгкае, — я магла адказваць толькі хрыплым дрыготкім голасам. Калі мяне выклікалі да дошкі, я была перакананая — нават у дні, калі гэта было немагчыма, — што на спадніцу ззаду пратачылася кроў. Калі матэматык прасіў накрэсліць кола на дошцы вялікім цыркулем, мае рукі рабіліся ліпкімі ад поту. Я не магла адбіць мяч у валейболе; калі трэба было зрабіць нешта на вачах у іншых, у мяне знікалі любыя рэфлексы. Я ненавідзела ўрокі эканомікі, ба там трэ' было разлінеіць сшытак для бухуліку, а як толькі настаўнік зазіраў мне цераз плячо, роўныя радкі з'язджаліся разам і йшлі хвалямі. Я ненавідзела фізіку; мы рассаджваліся на крэслы пад зыркімі лямпамі за сталамі, застаўленымі незнаёмымі, крохкімі прыборамі, а выкладаў фізіку дырэктар — мужчына з халодным, самазадаволеным голасам, якім ён шторанку чытаў нам Евангелле, і вялікім талентам прыніжаць іншых. Я ненавідзела англійскую, бо хлопцы гулялі ў лата на задніх партах, а настаўніца, мажная, нерашучая і крыху касавокая маладзіца, чытала нам Уодсварта. Яна ўшчувала іх, крычала на іх да чырвані твару і, такога ж, як у мяне, зрыву ў голасе. Яны карцінна прабачаліся і калі яна працягвала верш, прымалі захопленыя позы, рабілі натхнёныя твары, ускідвалі вочы да столі, прыцiскалі далоні да сэрца. Часам яе даводзілі так, што яна выбягала з плачам на калідор. Хлопцы мычалі ёй услед — і наш рогат — мой у тым ліку — здаганяў яе. У класе тады панавала атмасфера бязлітаснага карнавалу, якая прыгнятала такіх слабых і спаняверaных асобаў, як я.

Але эканоміка, фізіка, англійская мова — гэта было не галоўнае ў школе. Нешта іншае надавала жыццю бляск і інтэнсіўнасць. Стары будынак з яго сырымі пячорыстымі скляпеннямі, з цёмнымі гардэробамі і партрэтамі мёртвых каралёў ды зніклых першапраходцаў брыняў мандражом у чаканні вялікага паловага спаборніцтва. Мроячы пра гучную перамогу ў гэтым спаборніцтве, я ўсё-ткі прадчувала свой татальны правал. Трэ' было, каб хоць нешта не дало мне пайсці на вечар.

Прыйшоў снежань і прыйшоў снег. І мне ў галаву прыйшла ідэя. Яшчэ раней я беспаспяхова спрабавала ўпасці з ровара і пашкодзіць нагу, вяртаючыся дадому па наледзі прасёлку, спярэшчанага каляінамі. Але гэта было не так проста. У той жа час, як лічылася, у мяне былі слабыя горла і лёгкія — чаму б не скарыстацца з гэтага? Уначы я ўздымалася і прыадчыняла фортку. Я кленчыла, падстаўляючы разяўлены рот ветру, змяшанаму са снегам. Я расшпільвала верх піжамы. Я паўтарала сабе выраз «сінець ад холаду» і, кленчачы з заплюшчанымі вачыма, уяўляла, як мае грудзі і горла сінеюць і шэра-блакітная сетка венаў праступае пад скурай. Я стаяла так, пакуль магла трываць, а потым заграбала снег з падваконня, расцірала сабе грудзі і зашпільвала піжаму. Снег таяў пад фланэллю, і я спала ў мокрым — гатовая хвароба! Зраніцы, прачынаючыся, я прачышчала горла, спраўджвала, ці не баліць, рабіла кантрольны кашаль, з надзеяй мацала лоб, спраўджваючы тэмпературу. Але ўсё было кепска. Штораніцы, у тым ліку калі надышоў дзень танцаў, я прачыналася пераможанай і — абсалютна здаровай.

У дзень танцаў я накруціла валасы на стальныя бігудзі. Ніколі раней я гэтага не рабіла, бо ў мяне валасы і так віюцца, але ў той дзень я прагнула абараніць сябе любымі даступнымі мне рытуаламі жаноцкасці. Я ляжала на канапе ў кухні, чытала «Апошнія дні Пампеяў» Бульвера-Літана, і мне самой хацелася апынуцца пад тонамі лавы. Мая перфекцыяністка-маці прышывала да сукенкі белы карункавы каўнерык; яна лічыла, што карункі — гэта па-даросламу. Я не зводзіла вачэй з гадзінніка. Гэта быў адзін з найкарацейшых дзён у годзе. Шпалеры над канапай былі спярэшчаныя даўнімі «крыжыкамі-нулікамі», старымі рысункамі і крамзоламі, якія я ці брат пакідалі тут, пакуль ляжалі з бранхітам. Я глядзела на іх і хацела назад, у ратаўнічы манежык дзяцінства.

Калі я зняла бігудзі, валасы, завітыя як натуральна, так і штучна, стрэлілі ў бакі ільсняным феерверкам. Я мачыла іх вадой, прычэсвала, залізвала грабянцом, прымушаючы абрамляць авал твару. Я нанесла пудру, якая, нібы тынкоўка, абляпіла мой гарачы твар. Мама выцягнула з шафы сваю туалетную ваду Ashes of Roses, якой ніколі не карысталася, і дазволіла мне папшыкаць на плечы. Потым яна зашпіліла мне сукенку і павярнула мяне да люстра. Там была прынцэска з асінай таліяй. Грудзі, абцягнутыя тугім ліфам, неяк па-новаму, з дарослым апломбам вытыркаліся наперад з-пад дзіцячых фальбонак каўнерыка.

«Шкада, няма фотаапарата, — сказала мама. — Я — геній падгонкі. Ты мусіш сказаць мне дзякуй».

«Дзякуй», — сказала я.

Першае, што я пачула ад Лоні, калі адчыніла ёй дзверы, было: «Божа, што ў цябе на галаве?»

«Завіўка», — сказала я.

«Проста зулус нейкі. Але спакойна. Дай грабянец, зраблю табе гульку. Нармальную прычоску. Ты нават выглядаць будзеш дараслейшай».

Я села перад люстэркам, а Лоні ўстала за мной, пачаўшы ўкладваць мне валасы. Мама, як выглядала, прыклеілася да нас навечна. «Ідзі ўжо», — подумкі прасіла я. Гледзячы, як заплятаецца гулька, яна ўсклікнула: «Ты цуд, Лоні! Табе варта пайсці вучыцца на цырульніцу!»

«О, гэта ідэя», — адказала Лоні.

На ёй была блакітная сукенка з вялікай баскай і бантам; яе сукенка выглядала больш дарослай, нават калі здзерці з маёй каўнерык. Валасы ў яе былі гладкімі, як у дзяўчыны з рэкламы невідзімак. Я заўсёды ўпотай думала, што Лоні не можа быць прыгажуняй, бо ў яе крывыя зубы, але цяпер я бачыла, што крывыя не крывыя, а побач з яе моднай сукенкай і гладкімі



«Майстар сучаснага апавядання», — гэтак сціпла і не прэтэнцыёзна гучала афіцыйная фармулёўка Нобелеўскага камітэта па літаратуры пры прысуджэнні прэміі 82-гадовай канадцы Эліс Манро. Гэта не «галюцынаторны рэалізм» Мо Яня і не «картаграфія структуры ўлады» Варгаса Льёсы.
«Некалі я думала, што мае апавяданні — гэта прэлюдыя да рамана. А потым аднойчы я зразумела, што гэта ўсё, на што здольная», — прызнавалася пісьменніца ў адным з інтэрв'ю.
Амерыканскі літаратурны крытык Харальд Блум называў Манро сярод наймацнейшых навелістаў XX ст., але адзначаў, што яна ўсё ж саступае ў майстэрстве Хорхе Луісу Борхесу, Джэймсу Джойсу і Антону Чэхаву.
Эліс Манро піша традыцыйна, сказы ў яе творах простыя і лаканічныя. Пры гэтым яна захоўвае вялікую ўнутраную напружанасць і трагізм. Героі ж нібыта вашы суседзі, хай і дзеянне адбываецца ў вёсках і малых гарадках канадскага Антарыя.
Манро мала вядомая ў нашых краях. Па сённа ніводная яе кніга не перакладзеная на расейскую мову.
«Наша Ніва» друкуе першы пераклад на беларускую.

# ўзору 1946 года

валасамі я выглядала зацягнутым у чырвоны аксаміт, лупатым, кудлатым пудзілам, на мяжы псіхічнага разладу.

Мама праводзіла нас да дзвярэй і крыкнула ў цемру: «О рэзэрвуар!» Гэта было наша з Лоні традыцыйнае развітанне; з яе вуснаў яно прагучала недарэчна і па-дурному, і я так разлавалася на гэтае малпаванне, што не адказала. Толькі Лоні прыкрычала ў адказ бадзёрым і радасным голасам: «Да пабачэння!»

Гімназія пахла хвояй і кедрам. Чырвоныя і зялёныя шары з гафраванай паперы звісалі з баскетбольных колаў; высокія вокны з частымі рамамі былі ўпрыгожаны хваёвымі галінамі. Усе старшакласнікі, здавалася, прыйшлі парачкамі. Некаторыя дзяўчаты з дванаццатага і трынаццатага класаў прывялі выпускнікоў, якія ўжо мелі працу ў горадзе. Гэтыя маладыя людзі курылі ў школе, і ніхто не мог ім нічога сказаць, яны былі свабодныя. Іх *да*мы стаялі побач, як бы між іншага трымаючы сваіх кавалераў за рукавы пінжакоў, з нуднымі, адчужанымі і прыгожымі тварамі. Мне б хацелася гэтак жа. Гэтыя дзяўчаты паводзіліся так, нібы яны — старэйшыя — адзіныя легітымныя госці вечара, а рэшта нас, што віецца навокал — нябачныя, бясплотныя духі; калі абвесцілі першы танец — Пол Джонс — яны пасунуліся ў танцзалу з грацыяй амёбаў, паблажліва пасміхаючыся адна адной, так, нібы іх запрашалі да паўзабытай дзіцячай гульні. За імі, трымаючыся за рукі, у трымценні папаўзлі мы, дзяўчатыдзевяціклашкі.

У танцы Пол Джонс ніхто нікога не запрашае — кавалеры і дамы рухаюцца двайным карагодам у супрацьлеглыя бакі, а калі музыка спыняецца, разбіваюцца на выпадковыя пары. Я не падымала вачэй на знешняе кола, якое круцілася перада мной, баючыся пабачыць кагосьці, хто, насуперак добрым манерам, прыспешваецца, каб са мной размінуцца. Калі музыка спынілася, я спынілася таксама і, прыўзняўшы вочы, пабачыла перад сабой хлопца па імені Мэйсан Уільямс, які неахвотна спыніўся перада мною. Ён пачаў танчыць са мной, ледзьве кранаючыся маіх пальцаў. Ногі ў мяне падкошваліся, плечы мае калаціла, я не магла выцiснуць з сябе ні слова. Гэты Мэйсан Уільямс быў героем школы; ён гуляў у баскетбол ды хакей і хадзіў па калідоры самотны, як кароль, як нахабны, як варвар. Танчыць з такой нікчэмнасцю, як я, было ніжэй за яго гонар, усё адно што вучыць на памяць Шэкспіра. Мы абое выдатна гэта разумелі, і я фізічна адчувала непамысныя погляды, якімі ён абменьваўся з сябрамі. Спатыкаючыся, ён павёў мяне ў танцы да краю танцпола. Зняў руку з маёй таліі і адпусціў маё плячо.

«Пакуль», — развітаўся ён і сышоў.

Хвіліну да мяне даходзіла, што адбылося, што ён не вернецца. Я адышлася і падперла сцяну. Настаўніца фізкультуры, якая энергічна танцавала з дзесяцікласнікам, кінула на мяне выразны позірк. І я страшна баялася, што яна зверне ўвагу на сітуацыю і пачне публічна змушаць Мэйсана датанцаваць са мной да канца. Мэйсанаў учынак ані здзівіў, ані раззлаваў мяне. Я выдатна разумела, хто ён, а хто я ў вачах школы. Ён быў сапраўднай зоркай — не нейкай афіцыйнай зоркай кшталту старасты ці алімпіядніка, якога чакаў поспех за сценамі школы: гэтыя з ветлівай паблажлівасцю прагнанчылі б са мной да канца — і я адчувала б сябе не лепей. Усё ж я вельмі спадзявалася, што мала хто заўважыў мяне і Мэйсана. Усеагульнай увагі я не вынесла. Я пачала грызці вялікі палец.

Калі танец скончыўся, я змяшалася з дзяўчатамі, якія памкнулі да кутоў спартзалы, дзе мы танчылі. Уяві сабе, што танцы яшчэ не пачыналіся, пераконвала я сябе. Што вось гэта самы пачатак.

Музыкі зноў зайгралі. Тлум на нашым канцы залы варухнуўся і вокамгненна рассмактаўся. Падышлі хлопцы, дзяўчаты пайшлі танчыць. Лоні таксама. Дзяўчына злева ад мяне таксама. Мяне не запрасілі. Я згадала артыкул, які мы чыталі з Лоні, у ім гаварылася: «Усмешачку! Хай мальцы пабачаць бляск у тваіх вачах, пачуюць смех у тваім голасе! Простая ісціна, але куча дзяўчат ігнаруе яе!» І праўда. Я і забылася. Мае бровы звяло ад напругі, мусіць, выглядала гэта жахліва. Я глыбока ўздыхнула і паспрабавала расслабіць твар. Я пасміхнулася. Але пасміхацца проста так было тупа. Да таго ж, як я заўважыла, дзяўчаты ў зале, тыя, каго запрасілі, зусім не пасміхаліся; у многіх з іх былі сонныя, надзьмутыя твары — ніякіх усмешак.

**Запрашалі тоўстых, запрашалі прышчавых, запрашалі бедных, і ўсе яны танчылі. Чаму запрасілі іх, а мяне не? Усіх, але не мяне?**

А дзяўчат усё запрашалі. Некаторыя, страціўшы надзею, запрашалі адна адну. Але збольшага запрашалі хлопцы. Запрашалі тоўстых, запрашалі прышчавых, запрашалі бедных, у якіх не было сукенкі і якія прыйшлі на танцы ў швэдры са спадніцай, іх запрасілі, і яны танчылі. Чаму запрасілі іх, а мяне не? Усіх, але не мяне? На мне была чырвоная аксамітная сукенка, я завіла валасы, я напырскалася дэзадарантам і туалетнай вадой. «*Маліся*», — сказала я сабе. Я не магла заплюшчыць вачэй, але подумкі паўтарала: «*Калі ласка, ну, калі ласка*», — я склала пальцы за спінай у знак, магічнейшы за прости крыжык — сакрэтны знак, які я і Лоні ўжывалі, каб нас не выклікалі да дошкі на матэматыцы.

Не спрацавала. Тое, чаго я баялася, аказалася праўдай. Я засталася стаяць ля сценкі. Са мной было нешта няяснае. Гэта не было нешта, што можна было выправіць, кшталту смуроду з роту, ці праігнараваць, як прышчы, і ўсе гэта ведалі, і я гэта ведала; я заўжды гэта ведала. Але да сёння я не ведала напэўна, я спа-дзявалася, што памылілася. Раптам мне стала млосна. Я прамінула пару дзяўчатак, якіх таксама не запрасілі, і схавалася ў дзявочай прыбіральні. Замкнулася ў кабінцы.

І сядзела там. У перапынках дзяўчаты імкліва заходзілі і выходзілі. Кабінак было шмат; ніхто не заўважыў, што адна была ўвесь час занятая мною. Я слухала музыку, якая мне падабалася, але больш не кранала. Мне хацелася пераседзець, незаўважна выбраца, пайсці дахаты.

Падчас аднаго з танцаў нехта ўвайшоў. Нейкая дзяўчына доўга мыла рукі, потым доўга прычэсвалася. Я падумала, яна заўважыць, што я столькі часу тырчу ў кабінцы. Я палічыла за лепшае выйсці і пачаць мыць рукі. Можа, пакуль я пастаю ля ўмывальніка, яна пойдзе сабе.

Гэта была Мэры Фартуна. Я ведала, як я завуць, бо яна была капітанам Дзявочага атлетычнага таварыства, яе фота вісела на дошцы гонару і яна была галоўнай арганізатаркай у школе. Гэта яна дапамагала рыхтаваць калядны вечар — абыходзіла класы, запрашаючы ахвочых развешваць упрыгожанні. Яна была ў адзінаццатым ці дванаццатым класе.

«Тут добра. Прахалода! — сказала яна. — Я зайшла, каб асвяжыцца. Там проста парылка».

Яна працягвала прычэсваца, калі я дамыла рукі. «Як табе музыка?» — спыталася яна.

«Нармальна», — сказала я.

Я не ведала, што сказаць. Мне ўвогуле было дзіўна, што старшакласніца марнуе час на размовы са мною.

«Фуфло, а не музыка, фу, — адказала яна. — Я ненавіджу танцы і я ненавіджу музыкаў. Толькі паслухай. Што за рваны рытм. Лепш не танчыць увогуле, чым танчыць пад гэта».

Я прычэсвалася. Яна абаперлася на рукамыйнік, назіраючы за мною.

«Не хачу танчыць дый заставацца тут не хачу. Хадзем пакурым».

«Куды?»

«Давай за мной. Я пакажу».

На іншым канцы прыбіральні былі дзверы. Незачыненыя, яны вялі ў цёмную каморку з вёдрамі і швабрамі. Яна папрасіла мяне прытрымаць дзверы ў прыбіральню, каб было святло, а сама стала намацваць наступныя дзверы. Яны адчыніліся ў цемру.

«Святло ўключаць нельга, а то нехта пабачыць, — сказала яна. — Гэта пакойчык вахцёра».

Я падумала, што атлеты ведаюць пра школу як пра будынак больш, чым астатнія; яны ведаюць, дзе ляжыць інвентар і заходзяць у недаступныя астатнім дзверы з незалежным, заклапочаным выглядам. «Глядзі пад ногі, — папярэдзіла яна. — Дзесьці ў канцы прыступкі. Яны вядуць у каморку на трэцім паверсе. Каморка замкнёная, але там ёсць пераборка. Таму, калі сесці на прыступкі, то нават калі нехта выпадкова зойдзе, тут нас не заўважаць».

«А цыгарэтны пах?» — спыталася я.

«Ды ладна. Рызыка — наша ўсё».

Над сходамі было ваконца, якое давала крыху святла. Мэры Фартуна выцягнула з торбачкі цыгарэты і запалкі. Раней я курыла толькі самакруткі, якія мы з Лоні рабілі з тытуню, што яна крала ў бацькі; самакруткі развальваліся пасля пары зацяжак. Гэтыя цыгарэты былі лепшыя.

«Я толькі таму сёння прыйшла, — сказала Мэры Фартуна, — бо я вешала гірлянды, мне проста хацелася паглядзець, як яно выглядае ў антуражы і ўсё такое. Інакш бы мяне тут не было. Я не *пацанаманка*».

Высокае акенца асвятляла яе вузкі, пагардлівы твар, смуглявую скуру, пашытую прышчыкамі, яе магутныя сківіцы, што сціскаліся ў начальніцкі выскал.

«Ва ўсіх баб у гэтай школе проста манія на пацаноў. Ты не заўважыла? Проста парад пацанаманак, а не сярэдняя навучальная ўстанова».

Мне былі прыемныя яе ўвага, яе кампанія, яе цыгарэта. Я сказала, што яна мае рацыю.

«Напрыклад, сёння. Я ўпрошвала іх развесіць шары і іншы хлам. А яны проста стаялі на драбінах і выпендрываліся перад хлопцамі. Упрыгожанні — па барабане. Галоўнае — пакрасавацца. Іх жыццёвая мэта — выпендрывацца перад хлопцамі. Яны ідыёткі, я так лічу».

Мы абмяркоўвалі настаўнікаў і школьныя справы. Яна сказала, што хоча стаць настаўніцай фізкультуры, таму збіраецца ў каледж, але ў яе бацькоў няма чым плаціць. Яна сказала, што пойдзе працаваць, бо па-любому хоча быць незалежнай, яна пойдзе ў афіцыянткі, а летам уладкуецца на ферму, напрыклад, збіраць тытунь. Слухаючы яе, я пачувалася не такой няшчаснай. Я сустрэла такую ж, як я, няўдачніцу — я бачыла гэта, — але, у адрозненне ад мяне, гэтая дзяўчына была поўная энергіі і самапавагі. Яна знайшла выйсце. Яна будзе збіраць тытунь на ферме.

Так мы стаялі, размаўлялі і курылі, у танцах быў вялікі перапынак, і ўсе там частаваліся кавай з пончыкамі. Калі музыкі зноў зайгралі, Мэры сказала: «Слухай, а што мы ўвогуле тут забылі? Давай забярэм паліто ны і звалім. Можна пайсці ў забягалаўку да Лі і спакойна паразмаўляць за кавай. Ты як?»

Мы прабраліся праз пакойчык вахцёра, зацiскаючы ў далонях попел і недапалкі. У каморцы са швабрамі мы спыніліся і прыслухаліся, каб пераканацца, што ў прыбіральні пуста. Мы выйшлі на святло і змылі недапалкі ва ўнітаз. Нам трэба было прабрацца да шатні праз натоўп танцораў; шатня была ў вестыбюлі.

**Я зразумела, што ў мяне ёсць таямнічая і амаль непад'ёмная місія – быць шчаслівай**

Пачаўся новы танец. «Абыдзі спартзалу па перыметры, — сказала Мэры. — Ніхто нас не заўважыць».

Я пайшла за ёй. Ні на каго не гледзячы. Не шукаючы вачыма Лоні. Я, відаць, больш не буду сябраваць з Лоні. Прынамсі, не так, як раней. Яна была з тых, каго Мэры называла пацанаманкамі.

Я пабачыла, што не так гэта і страшна — цяпер, калі я вырашыла пайсці з танцаў. Я не чакала, што нехта мяне запросіць. У мяне былі свае планы. Мне не трэ' было пасміхацца, каб прыцягнуць удачу. Гэта больш не мела значэння. Я ішла па сваіх справах — піць каву з сяброўкай.

Нейкі хлопец нешта мне сказаў. Ён заступіў мне дарогу. Мне здалося, ён сказаў, ты нешта ўпусціла ці куды ты, гардэроб жа замкнёны. Я не зразумела, што ён запрашае мяне на танец, пакуль ён не паўтарыў запрашэння. Гэта быў Рэйманд Болтынг з нашага класа, з якім я ў жыцці не абмянялася ні словам. Яму здалося, што я сказала «так». Ён паклаў руку мне на талію, і, амаль не ўсведамляючы, што раблю, я пачала танчыць.

Ён вёў мяне ў цэнтр залы. Я танчыла. Мае ногі не падкошваліся, а рукі і не думалі пацець. Я танчыла з хлопцам, які мяне запрасіў. Ніхто не намаўляў і не прымушаў яго — ён проста мяне запрасіў. Як гэта было магчыма, ці можна было ў гэта паверыць, урэшце, ці ўсё са мной у парадку?

Я збіралася сказаць яму, што гэта памылка, я збіралася сыходзіць, я ішла на каву з сяброўкай. Але прамаўчала. Я злёгку скурчыла твар, каб надаць яму хмуры, адсутны выраз у стылі тых, каго абралі, тых, хто танчыў. І менавіта такі твар пабачыла Мэры Фартуна, калі выйшла з шатні, ужо захутаная ў шалік. Я млява махнула рукой, знятай з хлапечага пляча, маўляў, прабач, я не ведаю, што здарылася, не чакай мяне. Потым я адвярнулася, а калі павярнулася зноў, яе ўжо не было.

Рэйманд Болтынг правёў дадому мяне, а Гаральд Сіманз — Лоні. Учатырох мы дайшлі да павароту на Лоніну вуліцу. Хлопцы абмяркоўвалі хакей, мы з Лоні не маглі падтрымаць гэтай размовы. Потым мы разбіліся на пары, і Рэйманд працягнуў пераконваць мяне ў тым, у чым толькі што пераконваў Гаральда. Здавалася, ён не заўважаў, што перад ім я, а не ён. Пару раз я ўставіла: «Не ведаю, я ў хакеі не разбіраюся», — але потым ужо адно ўгукала ды падтаквала — гэтага было больш, чым дастаткова.

Не пра хакей ён сказаў наступнае: «Я не ведаў, што ты жывеш так далёка», — і шмыргнуў носам. Ад холаду я таксама засаплівіла; пахрабусцеўшы цукеркавымі фанцікамі ў кішэні, я намацала пакамечаную сурвэтку. Вагалася, ці прапанаваць яму, але ён зноў гучна шмыргнуў, таму я сказала: «Вось сурвэтка, здаецца, нават не вельмі чыстая, я атрамант выцірала. Але калі разарваць напалам, то будзе мне і табе».

«Дзякуй, — сказаў ён, — Я вазьму».

Здорава, што я так зрабіла, бо, калі ля нашых веснічак я сказала: «Ну, да пабачэння», — а ён сказаў: «Ага, да пабачэння», — ён раптам нахіліўся да мяне і пацалаваў, злёгку, з выглядам чалавека, які ведае, што і калі рабіць, у куток вуснаў. Гэта быў не сон. Я магла жыць. Я падышла да акна кухні і пабачыла маму. Яна сядзела, паставіўшы ногі ў адчыненую духоўку, піла гарбату з кубка, проста сядзела і чакала, калі я вярнуся і раскажу пра ўсё, што адбылося. А я не збіралася расказваць ёй ні цяпер, ні ў будучыні. Але калі я пабачыла святло на кухні, маму ў выцвілым махровым халаце з персідскімі ўзорамі, яе сонны, але поўны нясцерпнага чакання твар, я зразумела, што ў мяне ёсць таямнічая і амаль непад'ёмная місія — быць шчаслівай, і што сёння я ледзь не правалілася, і, магчыма, ў будучыні многа раз правалю, але мама ніколі пра тое не даведаецца.

**Пераклаў з англійскай Павал Касцюкевіч**

*З дэбютнага зборніка «Танец шчаслівых ценяў ды іншыя гісторыі» (1968) (Red Dress—1946)*

## ХАКЕЙ

### Хатняя серыя мінскага «Дынама»




**25 кастрычніка на «Мінск-Арэне»** пройдзе чарговая гульня рэгулярнага першынства КХЛ. «Дынама» прымае хабараўскі «Амур». Пачатак а 19. **28 кастрычніка** там і ў той жа час згуляюць «Дынама» — «Сібір» (Новасібірск).

## ФУТБОЛ

### Тур 28

**26-27 кастрычніка** пройдуць матчы чаргова тура чэмпіянату Беларусі па футболе. **У суботу** сустракаюцца:
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Шахцёр» (Салігорск);
«Дняпро» (Магілёў) — «Дынама» (Брэст);
«Гомель» — «Дынама» (Мінск).
**У нядзелю:**
«Нафтан» (Наваполацк) — «Мінск»;
«Славія» (Мазыр) — «Белшына» (Бабруйск);
«Нёман» (Гродна) — БАТЭ (Барысаў).

## ІМПРЭЗЫ

### Містык-фэст «Halloween у Замку VI»

**26 кастрычніка а 18-й у гісторыка-культурным цэнтры «Рыцарскі Замак»** у Астрашыцкім Гарадку — містык-фэст «Хэлоўін у Замку». Бяруць удзел: «Зніч», Aillion, Hok-Key, «Талісман», Kaltherzig, Euphoria, Ivory, Hedgehog in the Fog, «Дрыгва», Alta Mente.

### Вандраванні Радзівіла Сіроткі

**3 29 кастрычніка да 3 лістапада ў Тэатральнай зале Нясвіжскага палаца** пройдзе музычна-тэатральная імпрэза «Вандраванні Радзівіла Сіроткі». Драматычны акцёр Юрый Жыгамонт і артысты ансамбля старадаўняй музыкі«Кантабіле» паўстаюць у вобразах прыдворных музыкантаў, кіраўніка і ўдзельнікаў знакамітай Нясвіжскай капэлы.

### Бардаўская восень

**Цягам трох вечароў (25-27 кастрычніка)** у Бельскy-Падляшскім ды Беластоку будуць гасцяваць найлепшыя беларускія выканаўцы, якія прадстаўлялі сваю творчасць на «бардаўскай» сцэне ў два апошнія дзесяцігоддзі. Выступяць Паліна Рэспубліка, гурт Handmade і Віктар Шалкевіч, Re1ikt, Sounduk, ILO & Friends ды Лявон Вольскі, Bosae Sonca ды Зміцер Вайцюшкевіч пад акампанемент слыннага W-Z Orkiestra. Як і ў папярэднія гады, «Бардаўская восень» будзе гасцяваць у Гарадку (пятніца), Гайнаўцы (нядзеля) ды ў Цэнтры адукацыі ды прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах-Дзятлава (панядзелак).

## КАНЦЭРТЫ

### Музыка ў беларускіх замках і сядзібах

**27 кастрычніка а 18-й у канцэртнай зале «Верхні горад» (пл.Свабоды, 23а)** — канцэрт «Музыка ў беларускіх замках і сядзібах». Упершыню будзе выкананы трыпціх «Полацкага сшытка» ў новай канцэртнай транскрыпцыі, прагучаць творы Шутца Гендэля, Тэлемана, Бананчыні, Карысімі, Манюшкі, Шапэна.

### Grand Piano

**25 кастрычніка а 19-й у Вялікай канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі** — канцэрт Влодэка Паўліка Grand Piano. У яго ігры можна пачуць цені і Шымаshowcase ўскага, і дэ Фалі, і Пракоф'ева, і блюз, і танга, і Шапэна.

### Паліна Рэспубліка

**30 кастрычніка а 19-й «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — Паліна Рэспубліка.

### Neuro Dubel

**31 кастрычніка а 21-й у Jack club (Няміга, 12)** — канцэрт гурта Neuro Dubel.

### Д.П.Б.Ч.

**2 лістапада а 19-й у клубе «Цэнтр» (пл.Кастрычніцкая 1)** — прэзентацыя новага альбома гурту NRM «Д.П.Б.Ч.»

### Віталь Стахіевіч

**3 лістапада а 19-й у Беларускай дзяржаўнай філармоніі** — канцэрт Віталя Стахіевіча (Беларусь-Галандыя). Прагучаць творы Гайдна, Шуберта, Абеліовіча, Шапэна.






### Колер 2013

**Да 3 лістапада ў малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава беларускай мастачкі па тэкстылі Маргарыты Шчамялёвай «Колер 2013». Габелены М.Шчамялёвай ствараюць пластычнае асяроддзе, правакуюць асацыятыўнае мысленне, здольныя наараджаць безліч наратываў.

## ВЫСТАВЫ

### Выпадкова з мэтай

**У мастацкай галерэі твораў Л.Шчамялёва (пр.Ракасоўскага, 49)** да 14 лістапада працуе выстава «Выпадкова з мэтай», на якой прадстаўлены фотаздымкі невядомай Каліфорніі спадара К. Фотаздымкі былі зроблены падчас шматгадзінных пешых вандровак па нацыянальным парку Маўнт Д'ябла ў Каліфорніі.

### Прысвячаем маці

**Да 27 лістапада ў гістарычным музеі** працуе выстава «Прысвячаем маці» — сумесны выставачны праект з мастаком Аляксеем Кузьмічом. Эмацыянальным акцэнтам выставы стануць фотаздымкі, асабістыя лісты і вершы знакамітых беларускіх паэтэс і актрыс Еўдакіі Лось і Аляксандры Клімавай да сваіх сыноў.

## ТЭАТРЫ

### 24 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Офіс»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»

### 25 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Беларускай драматургіі** — «Хэпі Валентайн!»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Лялек** — «Ладдзя Роспачы»

### 26 кастрычніка

**Лялек** — «Чырвоны Каптурык»
**Юнага гледача** — «Царэўна Жабка»
**Беларускай драматургії** — «Воўк-мараплавец»
**Беларускай драматургіі** — «Дзённік паэта (Інтымны дзённік)»
**Оперы і балета** — «Хаваншчына»
**Купалаўскі** — «Вечар»

### 27 кастрычніка

**Лялек** — «Марозка»
**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

### 28 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»

### 29 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»
**Оперы і балета** — «Яўгеній Анегін»
**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»

### 30 кастрычніка

**Тэатр юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Беларускай драматургіі** — «А мне не сорамна!..»
**Лялек** — «Чароўныя падарункі»
**Беларускай драматургіі** — «Ціхі шэпт сыходзячых крокаў»

### 31 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Беларускай драматургіі** — «А мне не сорамна!..»
**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»
**Оперы і балета** — «Спартак»
**Беларускай драматургіі** — «Бегчы з Эльсінора, альбо Гамлет навыварат»

### 1 лістапада

**Юнага гледача** — «Казка чароўнага леса»
**Юнага гледача** — «Сіні аўтамабіль»
**Оперы і балета** — «Серэнада. Шэсць танцаў»

## КІНО

### Злачынства і пакаранне

План уцёкаў
Баявік, трылер
**Рэжысёр:** Мікаэль Хафстрэм
**У ролях:** Сільвестр Сталонэ, Арнольд Шварцнэгер, Сэм Ніл, Джэймс Кэвізел, Вінсэнт д'Анофрыа
ЗША, 116 хв.

Рэй Брэслін (Сільвестр Сталонэ) — найлепшы спецыяліст па сістэмах бяспекі, якога наймаюць дзяржаўныя турмы для праверкі іх надзейнасці. Дзякуючы сваім аналітычным здольнасцям, ён можа збегчы з любога зняволення. Аднак цяпер ён атрымлівае незвычайную замову: Рэю прапануюць праверыць бяспеку сучаснай прыватнай турмы пад назвай «Грабніца». На першы погляд яна падаецца ідэальнай установай — што не дзіўна, бо для яе будоўлі выкарысталі кнігу, якую напісаў Рэй. Вось толькі сам ён цяпер — сапраўдны зняволены.

Зорны дуэт пастарэлых Сталонэ і Шварцнэгера складае асноўную цікавасць стужкі. Мэтры паказваюць не столькі крутасць цягліцаў, а найперш акцёрскае майстэрства. Закручаная інтрыга знаёміць гледача з жорсткім светам злачынстваў і пакаранняў. Турэмнага мардабою таксама хапае. Ёсць і вытанчаны злодзей — стваральнік высокатэхналагічнай турмы.

**Настасся Уласава**



# «Футболь» Карла Альвіна Штрайгеля

Мінскі «Партызан», які гуляе ў другой лізе, узначаліў вельмі каларытны персанаж — немец Карл Альвін Штрайгель. Запрасіў на трэніроўку, якая адбываецца штодня а 17:15 на пясчанай пляцоўцы побач са стадыёнам «Трактар».

Умовы яшчэ тыя. Але хлопцы старанна выконваюць усе ўказанні спадара Штрайгеля. Калі яму падабаецца выкананне, то ўскідвае палец угару са словамі: «Я — воль».

«Трэнер, давайце гуляць, а то сцямнее», — кажа адзін з футбалістаў. Немец аддае ім мячы, а сам згаджаецца адказаць на пытанні. «Давай хутка, а то жонка сёння ў Польшчу едзе, трэба яе праводзіць».


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Наша Ніва»: Даўно ў Беларусі жывяце?**

**Карл Штрайгель:** Ужо чатырнаццаць гадоў.

**«НН»: А чаму пераехалі?**

**КШ:** Сустрэў каханне. Гэта было ў маленькім-маленькім гарадку зямлі Рэйнланд-Пфальц. Гэта было каханне з першага погляду. Яна прыехала разам з хорам у Германію, а мы вечарам з сябрам яе пабачылі. Я вырас у ФРГ, жыў за 15 кіламетраў ад Карлсруэ.

**«НН»: Не страшна было ехаць?**

**КШ:** Не, мяне ж чакала тут маё каханне. На мяжы пагранічнік спытаўся: куды, навошта? Толькі вось я нічога не разумеў. Калі шмат думаеш, то дапускаеш шмат памылак, я ж тады амаль не думаў.

**«НН»: Жадання няма пераехаць назад?**

**КШ:** У прынцыпе ўзнікае. Толькі ў жонкі зараз ёсць маленькі ўнук. А таксама яе бацькі, якім ужо за 80 гадоў. Таму гэта проста немагчыма.

**«НН»: А кім тут працуеце?**

**КШ:** Па адукацыі я паліграфіст. Працую ў кампаніі «Друк сэрвіс». Начальнік прадпрыемства ведаў нямецкую мову. Я запытаўся, ці трэба спецыяліст? Ён сказаў: ніякіх праблем.

**«НН»: А ў Германіі гулялі ў футбол?**

**КШ:** Я гуляў там 7 гадоў. Быў да другой гадзіны дня паліграфістам, а потым былі трэніроўкі. Гуляў за «Эпінген» у трэцяй нямецкай лізе. Пасля «Эпінген» выйшаў у другую Бундэслігу, толькі я ўжо сядзеў у запасе. Гуляў на пазіцыі атакуючага паўабаронцы.

**«НН»: Я чытаў, што вы працавалі ў моцным нямецкім клубе «Карлсруэ».**

**КШ:** Невялікая памылка. У «Карлсруэ» быў галоўны трэнер, а таксама тры ягоныя памочнікі. Я ўсяго толькі праходзіў практыку. У мяне ёсць трэнерская ліцэнзія, якую я атрымаў аж у 1983 годзе. Я хачу працаваць у Беларусі ў футболе. Я шмат пісаў мэйлаў, тэлефанаваў у клубы, але ніхто не даў мне шанца. Першы шанец мне дала Ганна [Болбас — кіраўніца футбольнага клуба «Партызан»]. Справа ў тым, што ў нас у фірме працуе сын шэфа, які некалі сказаў: «Я чуў, што «Партызан» шукае новага трэнера». Ён даў мне нумар тэлефона. Я спачатку крыху здзівіўся, што жанчына кіраўнік клуба. Праз 10 хвілін размовы ўжо было ясна, што я ўзначалю клуб.

**«НН»: Колькі вы ўжо працуеце?**

**КШ:** Шэсць тыдняў. Прычым, бясплатна працаваў. Праўда, хутка мы падпішам кантракт на год. Пасля будзе бачна.

**«НН»: Хочаце перайсці некуды вышэй?**

**КШ:** Канечне, калі будуць прапановы наверх, то з радасцю згаджуся. Але яшчэ больш хачу вывесці наверх «Партызан». Гэтыя маладыя людзі — будучыня беларускага футбола, яны вельмі перспектыўныя. Я перакананы, што кожны тур гульня будзе ісці ўсё лепей і лепей. Мы ўжо атрымалі першую перамогу над «Оршай».

**«НН»: Праўда, што вы прасіліся на працу ў мінскае «Дынама»?**

**КШ:** У «Дынама» сказалі, што там няма месца. Адзін вядомы трэнер сказаў, што ў нас няма месца замежніку.

**«НН»: Вы ведалі пра антыфашысцкія погляды заўзятараў «Партызана»?**

**КШ:** Канечне. Фанаты вельмі патрэбныя. Тое, што яны робяць... Я хачу размаўляць з імі. Гэта добрыя людзі, як яны файна падтрымліваюць сваю каманду. Але не трэба варагаваць. У Германіі фанаты ладзяць піратэхніку. А тут бойкі.

**«НН»: Умовы, я бачу, тут не самыя лепшыя для трэніровак.**

**КШ:** Так, я згодзен. Гэта нават трэніроўкай цяжка назваць. Хутчэй, імправізацыяй. Ёсць дамоўленасць, што на наступны год усё будзе лепш. Гэта будзе крыху даражэй. Але, магчыма, у нас з'явіцца лепшы спонсар. Цяпер мы на перадапошнім месцы — гэта не мая мэта. Трэба шмат працаваць, а я працы не баюся.

**«НН»: Як Вам беларускі футбол увогуле?**

**КШ:** Мой суайчыннік Бернд Штанге шмат зрабіў для зборнай. Цяпер узровень крыху апусціўся. Я не ведаю, чаму гэты год БАТЭ не змог прайсці ў еўракубкі.

**«НН»: Вашы нямецкія сябры не пыталіся ў Вас, што гэта за каманда БАТЭ, якая перамагла «Баварыю»?**

**КШ:** Ха-ха! Я ведаю прэзідэнта «Баварыі» Улі Хёнеса. Сустрэліся пасля гульні, ён мне: «Толькі нічога не кажы!» *(Смяецца)* Хадзіў на ўсе гульні БАТЭ ў еўракубках, калі гулялі ў Мінску. БАТЭ — добрая каманда, таму не здзівіўся выніку.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

## Пяць трэнераў да Ганчарэнкі

Галоўны трэнер БАТЭ Віктар Ганчарэнка нечакана ўзначаліў краснадарскую «Кубань». Мы ўзгадалі іншых беларускіх трэнераў, якія акуналіся ў расійскі футбол. Варта прызнаць, што пакуль ніхто з іх вялікіх дасягненняў не мае.

### 1. Эдуард Малафееў («Дынама-Газавік»)

У Цюмень Малафееў прыехаў (1993) у статусе мэтра савецкага трэнерскага цэха, а таксама чалавека крыху не «з гэтага свету». Яму ўдалося вывесці «Дынама» ў вышэйшую лігу. А потым (1994) нават сенсацыйна ўтрымацца ў ёй, заняўшы дванаццатае месца. Праўда, ужо на наступны год цюменцы скончылі чэмпіянат на «гаваровым» апошнім месцы. Пасля Малафееў ледзь не вывеў зборную Беларусі на чэмпіянат свету, а цяпер займаецца з дзецьмі з мінскага «Дынама».

### 2. Анатоль Байдачны («Жамчужына», «Чарнаморац», «Растоў», «Церак»)

У 1998-1999 узначальваў абсалютна адвязную сочынскую «Жамчужыну». З беларускім варатаром-халерыкам Генадзем Тумiловічам на чале. Каманду ў вышэйшай лізе ён не ўтрымаў, як і потым новарасійскі «Чарнаморац» (2000-2001). У 2010 папрацаваў з Рамзанам Кадыравым у грозненскім «Цераку». Расказаў пра той час шмат забаўных гісторый, але поспехаў так і не дасягнуў. Часова адышоў ад трэнерскай працы.

### 3. Сяргей Алейнікаў («Тарпеда-Металург»)

Найлепшы футбаліст Беларусі XX стагоддзя ў 2003 годзе кароткі час патрэніраваў маскоўскі клуб, «Тарпеда-Металург». Прыродная інтэлігентнасць не дазволіла Алейнікаву дабіцца на трэнерскай ніве вялікіх поспехаў. З расійскімі зоркамі трэ' было быць жорсткім, а Алейнікаў гэтага не ўмеў. Жыве ў Італіі. Працуе ў мясцовых клубах ніжэйшых ліг.

### 4. Ігар Крывушэнка («Сібір»)

Падобна Малафееву, Крывушэнка вывеў аддаленую ад цэнтраў каманду ў вышэйшы свет. Затрымацца там «Сібіры» не атрымалася. Хаця каманда ледзь не выйграла Кубак Расіі, а таксама адужала ў Лізе Еўропы ў адным з матчаў галандскі ПСВ. Цяпер узначальвае жодзінскае «Тарпеда».


Леанід Кучук — адзін з найбольш загадкавых трэнераў чэмпіянату Расіі.

### 5. Леанід Кучук («Кубань», «Лакаматыў»)

Шмат гадоў працаваў у Малдове, дзе выйграваў усё, што толькі магчыма з ціраспальскім «Шэрыфам». З кіеўскім «Арсеналам» ведаў, як перамагаць грозны данецкі «Шахцёр». Разам з «Кубанню» не прайграў у ніводным матчы другой паловы расійскага чэмпіянату. А цяпер вядзе маскоўскі «Лакаматыў» да першых за восем гадоў медалёў. Праўда, расійскія журналісты яго не надта любяць, бо амаль ніколі не дае інтэрв'ю.

ЗП

## Сціcла

### Азаранка знялася ў кліпе бойфрэнда

Другая ракетка свету, беларуска Вікторыя Азаранка, сыграла сцюардэсу ў леапардавай сукенцы ў кліпе Рэдфу. Тэнісістка Азаранка і рэпер Рэдфу ўжо больш за год знаходзяцца ў стасунках.

### Футбаліста забралі ў войска

Абаронца брэсцкага «Дынама» Ігар Бурко праходзіць службу ў рэзерве. Гэта рэдкі выпадак, калі прафесійнаму спартсмену не атрымліваецца «адкасіць».

### Гомельскія фанаты накасячылі

Падчас гульні чэмпіянату Беларусі паміж «Гомелем» і БАТЭ з фан-сектара гаспадароў амаль усе 90 хвілін чулася нецэнзурная лаянка. Міліцыя палохае, калі такое паўторыцца, то болей прадаваць білеты ў фан-сектар не будуць.

### «Цмокі»: Дзве перамогі

Ужо тры гульні ў Адзінай лізе ВТБ правялі баскетбалісты мінскіх «Цмокаў». Спачатку яны ў гасцях перамаглі латвійскі ВЭФ, а потым дома спачатку саступілі, а пасля перамаглі з «Чырвоным Кастрычнікам» і «Няптунасам». Наступная гульня 3 лістапада з грозным маскоўскім ЦСКА.

ЗП


УЛАДЗЬ ГРЫДЗІН, РАДЫЁ «СВАБОДА»

**Курбан-Байрам у Мінску. На вуліцы Грыбаедава, дзе будуецца мячэць, мусульмане адзначылі Курбан-Байрам ранішнім намазам і святочным сталом.**


СЯРГЕЙ ЗІНІН

**Залатая восень сёлета не прайшла міма Беларусі. Усе дрэвы пажаўцелі ў адзін час. Кажуць, што гэта прыкмета на роўную, без перападаў у тэмпературы, зіму. Асабліва радаваліся такой прыгажосці дзеці і закаханыя.**


БЕЛТА

**Гарнізонны інструктаж падраздзяленняў мінскай міліцыі, якія заступаюць на службу па ахове грамадскага парадку, адбыўся на плошчы Дзяржаўнага сцяга. У мерапрыемстве ўзяў удзел міністр унутраных спраў Беларусі Ігар Шуневіч.**

**Вось такі дзіўны расклад заняткаў у другога курса ІТФ у Аграрным універсітэце. «Я разумею, што лістоту няма каму прыбіраць, акрамя як студэнтам ды некалькім дворнікам, але ж гэта павінна быць у выглядзе просьбы, а не нейкага загаду. Смешна, спадарства!» — напісаў чытач.**

## Анекдоты і жарты

* * *

— Янка, а хто вінаваты ў тым, што ў нас каларадскія жукі ўраджай зжэрлі?
— Амерыка і ЕС!
— А ў тым, што прадукты даражэюць?
— Амерыка і ЕС!
— Крызіс зноў ідзе, хто вінаваты?
— Амерыка і ЕС!
— Малайчына, сынку! Падрасцеш — журналістам БТ станеш!

* * *

Прадам кватэру ў Мінску або памяняю на вёску з прыгоннымі ў Віцебскай вобласці.

* * *

Вырашыў заняцца спортам. Абраў бег. Дабег да камп'ютара. Сяджу. Бегаю вачыма па маніторы. Я адчуваю: «Спорт — гэта маё!»

* * *

Даследаванне паказала, што ў ЗША 75% падлеткаў ведаюць, як карыстацца айфонам. У той жа час, кожны чацвёрты кітайскі падлетак ведае, як яго сабраць.

* * *

Насуперак рэкламе, найлепшым сродкам для мыцця посуду па-ранейшаму застаюцца дзеці.

* * *

Начны клуб «Начны клуб» тэрмінова шукае крэатыўнага дырэктара.

* * *

Прыходзіць бээрэсэмавец у рэстаран і кажа: «Мне чырвона-зялёны боршч. І смятану па левым краі».

* * *

— Учора ўвечары выпрабоўвалі новы міксер. Напоўнілі яго спелымі памідорамі і ўключылі.
— А потым?
— А потым проста памянялі шпалеры на кухні.

## «НН» сто гадоў з вамі

**За 1912 год праз Лібаву** выехала ў Амерыку 58 507 душ. З гэтага чысла з Беларусі выехала: з Мінскай губерні — 8 380 душ, з Гродзенскай — 7 018, з Віленскай — 2 721, з Магілёўскай — 2 350, з Віцебскай — 1, 322. А ўсяго разам 21 791.

**«НН». №43. 1913.**

**Дайшлі да «Ладу».** Новы тэлеканал «Лад» уразіў з'яўленнем каларытнага Хаменкі ў якасці вядучага, мностам архіўных савецкіх стужак і адсутнасцю палітыкі. «Добра, што перакрылі расейскія каналы, — кажа вядучы Алесь Матафонаў. — «Лад» робяць нашы людзі для нас і на мясцовым матэрыяле».

**«НН». №39. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8047. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 22.10.2013.
Замова №4361.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 13039